Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№1 (4596) 6 студзеня 2011 г.



## Віншаванне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь праваслаўным хрысціянам

Дарагія суайчыннікі!

Сардэчна віншую вас з Нараджэннем Хрыстовым.

Больш як два тысячагоддзі гэта вялікае свята прыносіць нам светлую радасць і надзею, вучыць кіравацца маральнымі запаведзямі, праяўляць любоў да бліжняга і рабіць добрыя справы.

У калядныя дні мы наноў адкрываем простую ісціну: там, дзе няма згоды, даверу і ўзаемнай падтрымкі — там не будзе ні шчасця, ні паўнаты быцця. І калі мы хочам змяніць жыццё да лепшага, то перш за ўсё павінны захаваць духоўную магутнасць і згуртаванасць нашага народа, выхоўваць моладзь на аснове традыцыйных каштоўнасцей і ідэалаў беларусаў. Толькі адзінства зробіць нас моцнымі, вольнымі, здольнымі пераўтварыць свет, стане асновай для новых здзяйсненняў.

Няхай цяпло жыватворнага свята Нараджэння Хрыстова пастаянна саграе вашы сем’і, дапамагае быць беражлівымі адзін да аднаго. Няхай надышоўшы год парадуе новымі дасягненнямі, прынясе ў кожны дом утульнасць, дастатак і ўзаемаразуменне.

Ад усёй душы жадаю вам моцнага здароўя, добрага настрою і поспехаў у працы на карысць любімай Беларусі.

**Аляксандр Лукашэнка**



Выцінанка Вячаслава Дубінкі

# *Ад Нараджэння Хрыстова жыве наша роднае слова!*

## Пункціры

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прызначыў новым прэм'ер-міністрам краіны Міхаіла Мясніковіча. Першым намеснікам прэм'ер-міністра — Уладзіміра Сямашку. Намеснікамі прэм'ер-міністра — Анатоля Калініна, Сяргея Румаса, Валерыя Іванова, Анатоля Тозіка. На пасадзе кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі застаўся Уладзімір Макей. Першым намеснікам кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі прызначаны Аляксандр Радзькоў. Намеснікамі кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі — Валерый Міцкевіч і Андрэй Кабякоў. Анатоль Русецкі назначаны старшынёй Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Названы таксама асобы, якія зоймуць пасады міністраў. У тым ліку міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі, міністр адукацыі Сяргей Маскевіч, міністр культуры Павел Латушка.

Указам кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі галоўны рэдактар установы Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Рэдакцыя газеты "Советская Белоруссия" Павел Якубовіч назначаны членам Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу чацвёртага склікання.

Прэзідэнт Беларусі назначыў старшынёй Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі заслужанага артыста Беларусі Генадзя Давыдзьку, а таксама павіншаваў калектыў Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь з 55-годдзем з дня першага выйсця ў эфір Беларускага тэлебачання. З нагоды дзесяцігоддзя атрымаў віншаванні Кіраўніка дзяржавы таксама калектыў тэлеканала "СТВ".

Архіепіскап Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, у дзень свайго 65-годдзя прыняў віншаванні Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Крыху раней Аляксандр Рыгоравіч перадаў у дар Архікатэдральнаму касцёлу Прасвятой Панны Марыі ікону Божай Маці Вастрабрамскай, выкананую беларускімі майстрамі з бурштыну. Прэзідэнт паведаміў пра гатоўнасць да супрацоўніцтва з Рымска-каталіцкай царквой ва ўсім, што датычыць выхавання духоўнасці ў нашых суайчыннікаў.

Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка наведаў дабрачыннае дзіцячае свята ў Палацы Рэспублікі. На галоўную ёлку краіны былі запрошаны 2370 дзяцей ва ўзросце 8-14 гадоў з розных куткоў Беларусі, а таксама з Рыжскай беларускай школы і школы Ф. Скарыны ў Вільнюсе. Іх чакала віншаванне Аляксандра Рыгоравіча, які пажадаў ім добрай вучобы і заклікаў быць патрыётамі сваёй краіны, вясёлае навагодняе прадстаўленне і салодкія падарункі ад Прэзідэнта Беларусі.

Савет Міністраў Беларусі прыняў дзяржаўную праграму "Культура Беларусі" на 2011 — 2015 гады. Яна прадугледжвае захаванне культурнай спадчыны, развіццё прафесійнага мастацтва, забеспячэнне агульнадаступнасці музейных экспанатаў, свабодны доступ да інфармацыйных рэсурсаў бібліятэк, падтрымку айчынных кінавытворцаў, развіццё народнай творчасці і прафесійнай мастацкай адукацыі, а таксама эканамічнае стымуляванне сферы культуры.

**Падрыхтавала**
**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Вялікія клопаты і нямарныя спадзяванні

**Справаздачна-выбарчы сход Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі распачаўся з агучвання старшынёй Анатолем Крэйдзічам статыстычных дадзеных. Усяго на ўліку ў арганізацыі — 41 пісьменнік. З іх жанчын — 10, мужчын, адпаведна, 31. Паэтаў — 18, празаікаў — 23. Пішуць свае творы на беларускай мове 24 чалавекі, на рускай — 17. За пяць гадоў членамі брэсцкай пісьменніцкай арганізацыі зроблена нямала дзеля ўзняцця пісьменніцкага прэстыжу ў рэгіёне і стварэння лепшых умоў для творчасці пісьменнікаў Брэстчыны.**

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

Сімвалічна, што першым значным мерапрыемствам гэтага перыяду сталі паездкі берасцейскіх пісьменнікаў па літаратурных мясцінах вобласці, звязаных з імёнамі Афанасія Філіповіча, Юзафа Крашэўскага, Якуба Коласа, Фёдара Дастаеўскага, Аляксандра Блока, Яўгеніі Янішчыц, Васіля Гадулькі, Васіля Сахарчука, Міколы Купрэева, Міхася Рудкоўскага.

Удалося атрымаць для патрэб аддзялення добрае памяшканне і абсталяваць яго, тры гады таму быў створаны ўласны сайт берасцейскіх пісьменнікаў — першы з рэгіянальных пісьменніцкіх. Пры садзейнічанні старшыні Брэсцкага аблвыканкама Канстанціна Сумара пісьменнікі ажыццявілі такія значныя праекты, як выданне ўнікальнага даведніка "Літаратурная карта Берасцейшчыны" і заснаванне літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка. Сёлета яна ўручалася ўжо чацвёрты раз. Сярод лаўрэатаў — Валерый Грышкавец, Валерый Гапееў, Зінаіда Дудзюк, Расціслаў і Анатоль Бензерукі, Васіль Ласковіч, Аляксандр Юдзіцкі, Аляксандр Валковіч, Надзея Парчук, Зоя Гарадзецкая.

Штогод выдаецца ўсё больш новых кніг, пісьменнікі актыўна друкуюцца ў літаратурных часопісах, прычым, не толькі айчынных, але і замежных. Цікавым аказаўся праект выдання ў 2006-2010 гадах берасцейскага (11-га) нумара часопіса "Маладосць" і ў 2010-м берасцейскага нумара (таксама 11-га) у часопісе "Нёман". Значным паказчыкам якасці сучаснай берасцейскай прозы і паэзіі з'яўляецца выданне кніг аўтараў гэтага рэгіёна ў сталічных выдавецтвах. Гэта "Палеская элегія" Міколы Купрэева, кніга Рышарда Капусцінскага ў перакладах Валерыя Грышкаўца ды Анатоля Шушко "Вяртанне", "Свята для сэрца" Анатоля Бензерука, "Бяроза белая. Бяроза чорная" Аляксандра Валковіча, "Казкі навагодняга лесу" Зоі Гарадзецкай, "Урокі першага кахання" Валерыя Гапеева. У супрацоўніцтве з РВУ "ЛіМ" плануецца таксама выдаваць літаратурны альманах Берасцейшчыны.

Вялікі рэзананс у культурным асяроддзі берасцейшчыны выклікала заснаванне "Літаратурнага трохкутніка" — міжнароднага свята беларускай літаратуры. Гэты праект быў распрацаваны сумесна з Гродзенскім аддзяленнем СПБ і Беластоцкім літаб'яднаннем "Белавежа". Сёлета ўпершыню свята адбылося ў Гродне ў межах фестывалю нацыянальных культур. У 2011 годзе прымаць гасцей будуць берасцейцы, а яшчэ праз год яго гаспадарамі стануць беларускія пісьменнікі Беласточчыны. Дасягнута таксама трохбаковая дамова і з пісьменніцкімі суполкамі Валыні (Украіна) ды Люблінскага ваяводства (Польшча) аб узаемным перакладзе і публікацыях.

Берасцейскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў супольна з філалагічным факультэтам Брэсцкага дзяржуніверсітэта і пры непасрэднай падтрымцы галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы аблвыканкама заснавала дзіцячы літаратурны конкурс. Лепшыя творы ўдзельнікаў конкурсу змяшчаюцца ў калектыўным зборнічку "Адкрыццё". Намаганнямі прафесійных літаратараў, членаў Брэсцкай абласной пісьменніцкай арганізацыі ў абласных газетах "Заря" і "Народная трыбуна" пастаянна публікуюцца творы маладых аўтараў — найперш на літстаронках "Заранiца" ды "Берасцейскае вогнішча". Пры брэсцкіх абласных і амаль пры ўсіх раённых газетах працуюць літаб'яднанні, пісьменнікі пастаянна сустракаюцца з вучнямі ў школах, праводзяць майстар-класы, прэзентацыі кніг. У завяршэнне свайго выступлення Анатоль Крэйдзіч заклікаў калег-пісьменнікаў "жыць у літаратурнай прасторы Беларусі", нагадаўшы, што прастору гэтую перш за ўсё складаюць дзяржаўныя літаратурна-мастацкія выданні. "Калі мы не чытаем іх і не друкуемся ў іх — мы па-за літаратурнаю прасторую Беларусі", — сказаў ён. Абмеркаваўшы даклад, падзяліўшыся ўражаннямі ад падзей, якія адбыліся ў жыцці арганізацыі за пяць гадоў, выказаўшы свае прапановы і спадзяванні, літаратары Брэсцкай вобласці вырашылі даверыць Анатолю Крэйдзічу кіраванне рэгіянальнай арганізацыяй яшчэ на пяць гадоў.

## Юбілеі

# Для дзяцей і пра дзяцей

**У Доме літаратара прайшло мерапрыемства, прысвечанае юбілею вядомай дзіцячай пісьменніцы Ніны Галіноўскай.**



*Фота Кастуся Дробава*

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

У айчыннай літаратуры знойдзецца няшмат творцаў, якія прысвяцілі сябе толькі дзіцячай літаратуры. Ніна Галіноўская — адна з іх. Ураджэнка Шклоўшчыны, яна апублікавала свой першы верш яшчэ ў 1958 годзе ў скідальскай раённай газеце "Красное знамя". А праз чатыры гады выйшаў яе першы зборнік "Давайце пазнаёмімся", які паклаў пачатак своеасаблівай аўтарскай серыі дзіцячай літаратуры. Гэта кнігі "Лясная зарадка" і "Размова сняжынак", "Зай-прагназіст" і "Кніжчыны сябры", "Незвычайны карагод" і "Восень едзе ў магазін", таксама шэраг іншых. На рахунку творцы — прэміі імя Янкі Маўра і Васіля Віткі, класікаў беларускай дзіцячай літаратуры, — што лепш за ўсё сведчыць пра шырокае грамадскае прызнанне паэтэсы.

Нязмушанасць і непасрэднасць "дзіцячай" часткі сустрэчы праявілася ў выступленнях вучня адной з мінскіх гімназій Арцёма Славука, які выканаў хіт Алеся Ставера "Жураўлі на Палессе ляцяць", вучняў 31-й мінскай гімназіі, а таксама песні "Зямля мая" і дзіцячых прыпевак у выкананні малых наведвальнікаў і супрацоўнікаў дзіцячага садка "Дударыкі". Адметна, што аўтар тэкстаў двух апошніх нумароў — Ніна Галіноўская.

"Дарослая" частка атрымалася больш афіцыйнай, а таму менш цікавай для дзіцячай аўдыторыі. Зрэшты, сітуацыя не выглядае непапраўнай. Па словах пісьменніка Георгія Марчука, сказаных ці то жартам, ці то ўсур'ёз, творы Ніны Галіноўскай навечна ўключаны ў падручнікі па беларускай літаратуры. Таму маленькія чытачоў яшчэ неадназова чакаюць сустрэчы з імі.

***На здымку: першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў віншуе Ніну Галіноўскую.***

## Імпрэзы

# Падарунак ад Дзмітрыя Вінаградава

**Аксана ДРАЧАН**

Адным з найцікавейшых мерапрыемстваў, праведзеных Удзенскай цэнтральнай раённай бібліятэкай імя П. Труса ў канцы 2010 года, чытачы прызналі творчую сустрэчу з пісьменнікам Дзмітрыем Вінаградавым, лаўрэатам міжнароднага конкурсу "Залатое пяро Русі-2010".

Ад Дзмітрыя Леанідавіча чытачы даведаліся, што на конкурс ён прадставіў экалагічны нарыс, у якім параўноўваў выток Нёмана, што знаходзіцца на узденскай зямлі, з вытокам вялікай Волгі. Пісьменнік дзяліўся ўражаннямі ад цырымоніі ўшанавання пераможцаў у Цэнтральным доме літаратараў. У падарунак бібліятэцы ён перадаў сваю новую кнігу — багата ілюстраваны альбом "Хойнікшчына: легенды, падзеі, людзі".

## Прэміі

# Лаўрэатаў стала больш

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

**Ушаноўваючы дзейнасць у галіне літаратуры, дзяржава, грамадскія і іншыя арганізацыі засноўваюць прэміі ў гонар выбітных асоб, якімі адзначаюцца аўтары вартых увагі твораў, а таксама тыя, хто вядзе актыўную прапаганду беларускай культуры і літаратуры. Наша краіна багатая на літаратурныя прэміі.**

Адна з іх — імя Уладзіміра Караткевіча — заснаваная Віцебскім аблвыканкамам. З 2000 па 2005 год лаўрэатамі яе сталі 12 членаў абласнога аддзялення пісьменніцкай арганізацыі і тры ўстановы культуры. У 2006 годзе прэмію не ўручалі. У 2008 яна аднавілена. Упраўленне культуры аблвыканкама палічыла неабходным скарэкціраваць парадак прысуджэння і ўзнагароджання прэміяй: уручаць яе раз на два гады, а намінацыю "У галіне літаратуры" падзяліць на "Прозу" і "Паэзію".

У 2008 годзе ў намінацыі "Проза" лаўрэатамі сталі Фёдар Палачанін, Генадзь Пацыенка і Барыс Бележэнка. У намінацыі "Паэзія" — Надзея Салодкая.

У 2010 годзе лаўрэатамі прэміі сталі: у намінацыі "Паэзія" — Тамара Краснова-Гусачэнка за выбраныя творы ў 2 тамах "Спас" і зборнік вершаў "Где же солнышко ночует?", у намінацыі "Проза" — Генадзь Катляроў і ў намінацыі "За прапаганду жыцця і творчасці Уладзіміра Караткевіча" — старшы навуковы супрацоўнік Аршанскага музея У. Караткевіча Вольга Пашковіч.

## Літ-абсягі

# Патрэбна толькі адно…

**У пярэдадзень Новага года “СБ. Беларусь сегодня” істотна пашырыла айчынную літаратурна-мастацкую прастору, прапанаваўшы чытачу новы дадатак — “Літару”.**




Сяргей ШЫЧКО

Здавалася б, усяго 16 старонак, а ўражанняў — як пасля знаёмства з ладным томам паэзіі, прозы і крытыкі. Відаць, гэта яшчэ і таму, што разам сабраны фрагменты лепшых ці, ва ўсялякім разе, надзвычай цікавых мастацкіх тэкстаў. “Дзённік настрою” заслужанага дзеяча культуры Беларусі Янкі Сіпакова прадстаўлены зборам лірычных запісаў пад назвай “Дзень добры, зіма!”. Чытаеш — і на памяць адразу прыходзіць цёплая, поўная разваг і колераў, проза Янкі Брыля, Андрэя Федарэнкі, Канстанціна Паустоўскага, Уладзіміра Салаухіна. Рубрыка “60+” (адразу і тлумачэнне: “Паэзія шасцідзясятнікаў…”) знаёміць шырокага чытача з вершамі народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. “Неруш ранішні — / роднае слова, / Мне шукаць цябе, / покуль гляджу, /Пад зялёным крылом / верасовак, / Пад крысом/ і спякоты й дажджу”. У прадмоўцы да публікацыі — і сядзяванне: “…паспрабуем скласці сваю анталогію паэзіі 1960-х гадоў…”

Прадстаўлены ў “Літары” і вершы маладой паэтэсы (у якой “ёсць імя. Ёсць аўтарытэт у літаратуры”) Вікі Трэнас — рэдактара аддзела паэзіі часопіса “Маладосць”. Між іншым, нягледзячы на свой юны ўзрост, Віка ўжо даўно выявіла сябе прыкметным арганізатарам літаратурна-мастацкіх імпрэз. А яшчэ “Літара” знаёміць з паэтычнымі вышукамі Алеся Емяльянава, Міколы Кандратава, Таццяны Будовіч, Юліі Новік, Аксаны Спрынчан, Юрася Нератка, Маргарыты Аляшкевіч, Насты Грышчук, Алёны Беланожка.

Дарэчы, дадатак да “СБ” выразна выяўляе такі абсяг масмедыя, як літаратурная журналістыка. Такія рубрыкі, як “Літнавіны апошняга месяца”, “Трыялет”, “Літандэрграўнд”, “Кніжны навігатар” — сапраўдны ўзор таго, як трэба расказваць пра літаратуру, літаратурны працэс, кнігавыдавецкую дзейнасць. У “Трыялеце”, напрыклад, за размовай “Эпоха ўсеагульнай бязграматнасці” сустрэліся пісьменнік, драматург Алена Папова, паэтэса, выкладчык Інстытута журналістыкі БДУ Маргарыта Аляшкевіч і пісьменніца, крытык, літаратурны аглядальнік “СБ. Беларусь сегодня” Людміла Рублеўская.

Звяртаючыся да чытача з уступным словам “Пра сінічак і Страцім-лебедзя…”, Людміла Рублеўская зазначае: “У нас выдатная літаратура, якой можа ганарыцца любы народ. Патрэбна толькі адно: каб яе чыталі”. І з гэтым нельга не пагадзіцца.

## Арт-лінія

# Святло рукатворнае

Анатоль МАЗГОЎ, фота аўтара

**У духоўна-асветніцкім цэнтры Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Каладзеева адкрылася традыцыйная калядная выстаўка дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва “Хрыстос нарадзіўся! Цешцеся!”.**



На здымку: творы 14-гадовай Алесі Пацукевіч, прадстаўленыя на калядной выстаўцы.

У экспазіцыю ўвайшлі работы членаў Барысаўскага аддзялення Беларускай асацыяцыі дапамогі дзецям-інвалідам і маладым інвалідам, аддзялення дзённага знаходжання маладых інвалідаў Барысаўскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, выхаванцаў гуртокў іканапісу і батыку гарадскога Дома дзіцячай і юнацкай творчасці, а таксама вырабы залаташвачак творчай майстэрні вялебнай Еўдакіі храма Дзімітрыя Данскога, што ў горадзе Барысаве.

Звярнуўшыся да прысутных, галоўны бібліятэкар духоўна-асветніцкага цэнтра Галіна Прымак адзначыла: “Тут прадстаўлены работы, якія дапамагаюць іх аўтарам раскрыцца перад іншымі людзьмі, паказаць, на што яны здольныя, і тым самым прынесці радасць нашым наведвальнікам. Усе гэтыя творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва працятыя асаблівым святлом і цяплом, што жывіць веру ў добрую будучыню”.

Настаяцель храма Дзімітрыя Данскога айцец Сергій (Башкіраў) падкрэсліў: “Задачай нашай царквы і духоўна-асветніцкага цэнтра бібліятэкі з’яўляецца падтрымка творчых ініцыятыў барысаўчан, каб давесці людзям добрую вестку пра Каляды, пра евангельскі сэнс гэтага свята”.

Каля навагодняй ёлкі, усталяванай у духоўна-асветніцкім цэнтры, прайшлі святочныя прадстаўленні для дзяцей і дарослых. Павучальную калядную п’есу “Вожык, сцяжынка і Калядная Зорка” паказалі юныя валанцёры з Кішчына-Слабодскай сярэдняй школы Барысаўскага раёна. Юныя гледачы чула рэагавалі на захапляльную ігру сваіх аднагодкаў і падтрымлівалі іх дружнымі апладысментамі.

## Повязі

# Шаляпіна «тутэйшы след»

**Знаўцы жыццяпісу вялікага рускага спевака Фёдара Шаляпіна могуць нямала расказаць пра самыя розныя “геаграфічныя сляды” ў яго біяграфіі: маскоўскі, пецярбургскі, каўказскі, ялцінскі, парыжскі, скандынаўскі, кітайскі, японскі… А ці пакінуў легендарны бас свой след на беларускай зямлі? Ёсць такія факты, і яны чакаюць працы даследчыкаў. Але цяпер шукаць і аналізаваць адпаведную інфармацыю будзе лягчэй: дапаможа створаная ў Мінску новая грамадская суполка — “Шаляпінскае таварыства Беларусі”.**

Лана ІВАНОВА

Таварыства, якое аб’яднала спевакоў, музыкантаў-інструменталістаў, рэжысёраў, журналістаў, мастакоў, з’явілася дзякуючы жаданню прыхільнікаў Ф. Шаляпіна глыбей пазнаць яго феномен, раскрыць для сябе дэталі жыцця і творчасці гэтага спевака, акцёра, рэфарматара опернага тэатра, надзеленага яркім талентам мастака. Усё пачыналася з пасяджэнняў мінскага Клуба сяброў оперы, дзе пазнаёміліся аднадумцы-энтузіясты, якія з часам загарэліся ідэяй арганізаваць у Мінску Шаляпінскае таварыства. Стварыць яго дапамог Беларускі саюз музычных дзеячаў, пад патранатам якога новая суполка будзе ажыццяўляць свае праекты. Старшынёй “Шаляпінскага таварыства Беларусі” стаў вядучы майстар оперная сцэны, заслужаны артыст рэспублікі Алег Мельнікаў — лаўрэат І прэміі Першага міжнароднага конкурсу імя Ф. Шаляпіна ў Казані.

Урачыста прайшоў першы сход таварыства. Гучалі знакамітыя запісы Ф. Шаляпіна; у жывым выкананні творы з яго рэпертуару ўваскрэсіў А. Мельнікаў. Ганаровыя госці з Расіі — прадстаўнікі маскоўскага Міжрэгіянальнага Шаляпінскага цэнтра — падаравалі беларусам унікальны мультымедыйны альбом “Фёдар Шаляпін” ды некаторыя выданні, прысвечаныя жыццю і творчасці спевака. Першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Наталля Вітчанка паведаміла, што плануецца стварыць музей “Шаляпінскага таварыства ў Беларусі”, і аснова яго экспазіцыі ўжо ёсць: гэта падараваныя масквічамі збор малюнкаў, зробленых Ф. Шаляпіным, выдадзены пры падтрымцы Міжрэгіянальнага цэнтра, ды кніга журналіста-міжнародніка ІТАР-ТАСС Мікалая Гарбунова “Па скандынаўскім следзе Шаляпіна”.

А што да яго “тутэйшага следу”, дык пра выступленне Фёдара Іванавіча перад нашымі суайчыннікамі 8 сакавіка 1896 года пісала газета “Минский листок”: “Публіка наладзіла канцэртанту авацыю. Яго гушкалі, на руках выносілі на эстраду і прымушалі спяваць незлічонае мноства разоў. Шаляпін, расхрыстаны, зускудлачанай шавялюрай, спяваў, спяваў бясконца...”. Верагодна, што знакаміты спявак затрымаўся ў Мінску і на наступны дзень, што выступаў ён і ў больш вядомым на той час беларускім горадзе — Магілёве, на сцэне тамтэйшага драматычнага тэатра... Магчыма, дзейнасць новага таварыства дапаможа аднавіць беларускі след спевака? Дарэчы, прадстаўнікі Міжрэгіянальнага цэнтра, які аб’ядноўвае 16 аддзяленняў (11 у Расіі і 5 за мяжой), прапанавалі правесці ў Мінску міжнародныя Шаляпінскія чытанні.



На здымку: Фёдар Шаляпін. 1913 год.

## З-пад пяра

**Паэты** з 22 краін прынялі ўдзел у Трэцім Міжнародным конкурсе паэзіі, прысвечаным 65-годдзю Вялікай Перамогі. Конкурс, назву якому далі вядомыя радкі Булата Акуджавы “И помнит мир спасённый”, праводзіўся Маскоўскім саюзам грамадскіх аб’яднанняў-таварыстваў дружбы з народамі замежных краін пры падтрымцы Міжнароднага фонду славянскага пісьменства і культуры. Лепшыя ўзоры паэзіі, прадстаўленыя на гэтым конкурсе, увайшлі ў зборнік, падрыхтаваны Выдавецтвам Рунета. Сярод твораў паэтаў-гуманістаў з Расіі, Германіі, Грэцыі, Іспаніі, Вялікабрытаніі, Украіны, Ізраіля — і вершы паэтэсы з Беларусі Тамары Красновай-Гусачэнкі.

Леся КРАСАВІК

**Напярэдадні** Каляд Літаратурны музей Максіма Багдановіча ператварыўся ў казачную майстэрню, дзе кожны жадаючы атрымаў магчымасць авалодаць таемнымі здольнасцямі і навучыцца сваімі рукамі вырабляць чароўныя рэчы. Праграма трохдзённых святочных майстар-класаў “Казкі новай зімы” складалася наступным чынам. Дзень першы — “Казкі ад бабулі” — майстар-класы па традыцыйных відах дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Дзень другі — “Сяброўчына казка” — майстар-класы па сучасным hand-made-мастацтве. Дзень трэці — “Твая казка” — вясёлы кірмаш уласных вырабаў і “Рок-катрынка” — канцэрт моладзевых рок-гуртоў.

Міхаіл БАРАНОЎСКІ

**У Брэсцкай** абласной бібліятэцы імя М. Горкага адбылася ўрачыстая цырымонія ўручэння ўзнагарод пераможцам конкурсу журналістаў «Лепшая публікацыя пра “Горкаўку”». Падчас творчага мерапрыемства, якое праходзіла з сакавіка па снежань 2010 года, у сродках масавай інфармацыі з’явілася 54 публікацыі ад 30 аўтараў. Сем з іх сталі пераможцамі ў розных намінацыях. Сярод іх і рэдактар аддзела публіцыстыкі штотыднёвіка “Літаратура і мастацтва” Ірына Тулупава, якая падрыхтавала серыю журналісцкіх матэрыялаў пра бібліятэку. Трэба адзначыць, што такі конкурс праводзіцца ўпершыню. Яго галоўнай мэтай з’яўляецца падтрымка таленавітых аўтараў і наладжванне добрых стасункаў бібліятэкі з СМІ. Конкурс прысвечаны 70-годдзю з дня заснавання Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага і праводзіўся пры падтрымцы Упраўлення культуры і Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Брэсцкага аблвыканкама.

Уладзімір ПАДАЛЯК

**На філалагічным** факультэце Белдзяржуніверсітэта адбылася вечарына, прысвечаная Уладзіміру Караткевічу. Адкрываючы яе, дэкан факультэта Іван Роўда заўважыў: “Сакрэт папулярнасці кніг Караткевіча ў тым, што яны адпавядаюць самым надзённым і важным запатрабаванням сённяшняга дня”. Прафесар Вячаслаў Рагойша прыгадаў, што пісьменнік заўжды меў цесныя сувязі з філалагічным факультэтам. Прафесар Таццяна Шамякіна выказала меркаванне, што Караткевіч прыйшоў у беларускую літаратуру з усведамленнем сваёй місіі — як мага больш расказаць чытачу пра Беларусь. На вечарыне выступалі ўдзельнікі мастацкага калектыву Белдзяржуніверсітэта “Тутэйшая шляхта”, была прадстаўлена музычна-літаратурная кампазіцыя, падрыхтаваная студэнтамі.

Таццяна БЕЛЬСКАЯ

# Паэт, натоўп і грошы. Едзем міма

Маргарыта АЛЯШКЕВІЧ

**Пра камерцыю ў літаратуры, неабходнасць прамоцыі маладых беларускіх аўтараў і розныя спосабы тармашыць літаратурнае жыццё гутарым з арганізатаркай літаратурных імпрэз, аўтаркай дзвюх кніг паэзіі, рэдактаркай аддзела паэзіі часопіса "Маладосць" Вікторыяй Ляйкоўскай, больш вядомай як Віка Трэнас.**



Фота з асабістага архіва Вікі Трэнас

### Кансервы, рафінат, ядзерны сінтэз мастацтваў

*— Літаратура, падобна, прайграе ў няроўным баі з відовішчнымі мастацтвамі. Ці можа сёння кніга супрацьстаяць 3D-кіно, кліпам MTV ды іншым такога кшталту забавам?*

— Літаратура можа і павінна выжываць у свеце сучасных мас-медыя. Калі мы гаворым пра высокамастацкую літаратуру, тым больш на беларускай мове, — трэба ёй дапамагчы, і для гэтага добра прыдадуцца элементы масавай культуры, пэўныя адзнакі якой можна ўжываць на карысць нашай справе. Напрыклад, пры выданні кнігі на паперы выкарыстоўваць дасягненні сучаснай графікі і дызайну — кніга Алёны Беланожкі, якая зараз рыхтуецца да друку, будзе добрым прыкладам такога зашчэпння мастацтва фатаграфіі, дызайнерскага майстэрства і паэзіі. Магчыма, некаторыя мае старэйшыя калегі лічаць, што паэзію трэба захаваць у чыстым, рафінаваным выглядзе — але наша лічбавае стагоддзе гэтага не дазволіць, яно вымушае да змен. Кніжка і знешне, і ўнутрана павінна рэфармавацца ў адпаведнасці з часам.

*— Прамоцыяй беларускай літаратуры і маладых творцаў сёння шмат хто займаецца — у тым ліку і прома-група "ВЮ", якую вы стварылі разам з Юліяй Новік. У аснове штогадовага праекта "Выявы" палягае акурат сінтэз мастацтваў, дзе паэзія спалучаецца з танцам, музыкай, тэатралізаванай дзеяй, відэапрэзентацыямі ды інтэрактыўнымі гульнямі. Усё гэта адбываецца вакол літаратуры, вакол тэксту. Што павінна быць унутры, у самім тэксце, каб ён без якой-кольвек прамоцыі займеў чытача?*

— Шчырасць і высокая якасць выканання. Адно з першых патрабаванняў рэдактараў да твораў, якія ім прыносяць, — каб гэтыя творы былі закончаныя, цэласныя, гарманічныя. Калі твор гарманічны — ён запомніцца.

### Элітарная літаратура падае на развод, а менеджмент шлюбуецца з дабрачыннасцю

*— Кніга пра Гары Потэра стала шалёна папулярнай дзякуючы экранізацыі. А экранізацыя стала папулярнай, бо кніга патрапіла, што называецца, у жылу. Гэтая звязка — кніга і фільм — зрабіла так, што таўшчэзныя тамы чыталіся з неаслабнай цікаўнасцю адзін за адным. Аднак, каб людзі пачалі чытаць, спатрэбілся магутнасці Галівуда. У нас такіх магчымасцей няма — і што рабіць?*

— Мне здаецца, што мы гаворым крыху пра розныя рэчы. Дасюль, калі ты пыталася пра літаратуру, я думала пра літаратуру высокамастацкую, інтэлектуальную, элітарную. А зараз размова вядзецца ўжо пра літаратуру масавую.

*— Добра, пракаўтну свае заўвагі адносна таго, што і маскульт бывае якасна зроблены — і перафармулюю пытанне. Як данесці чытачу, што з'явіўся цудоўны, вытанчаны, звышінтэлектуальны, варты ягонай чытацкай увагі твор?*

— Вось, менавіта таму я і цікаўлюся менеджментам культуры! Менавіта таму і спрабую ім займацца! Гэта такі від дабрачыннасці сёння — прамаваць беларускую культуру… Пытанне ў іншым — у пазіцыі аўтара. Дапусцім, напісаў чалавек шэдэўр. А ці хоча гэты чалавек станавіцца масава папулярным? Мэтавая аўдыторыя заўжды павінна ўлічвацца. Напрыклад, не лічу, што інтэлектуальная паэзія, пра якую я шмат гавару, павінна быць арыентаванай да мас і збіраць стадыёны. Хаця цяперашнія рэкламныя механізмы маглі б гэта зрабіць, проста трэба грошы. Але ці патрэбна нам гэта?

*— Мяркую, ніводзін аўтар не адмовіўся б, каб яго прачытала як мага болей народу. Іншая справа — хто дасць грошы на рэкламу ў метро і па тэлебачанні. Ці сустракаліся табе заможныя людзі, якія пераймаюцца лёсам айчыннай літаратуры і гатовыя падтрымаць яе матэрыяльна?*

— На жаль, калі недзе і ёсць такія людзі, дык іх вельмі і вельмі мала (*і яны добра хаваюцца — падумала тут. — **М. А.***). Асобныя мецэнаты гатовыя падтрымаць нейкія праекты, цікавыя ім — гэта, зазвычай, праекты вузкаспецыялізаваныя. Ёсць прыватныя ініцыятывы, як мы, але ў нас няма колькі соцень тысячаў долараў, каб арганізаваць належным чынам рэкламу асобна ўзятай кнігі ці аўтара. І потым, з літаратарамі не так, як з папулярнымі спявачкамі…

*— Ну вось была рэклама фестывалю "Навальніца" — і ахвотных паглядзець на феерверкі сабралася столькі, што, думаю, усе выдаткі на рэкламу пакрыліся з гакам. А пісьменнік жа таксама паказвае феерверк — толькі гэта феерверк фантазіі. Чытачу павінна быць яшчэ і цікавей, бо ён сам запускае ракеты — калі адкрывае кніжку. Але на пісьменніках у нас не робяць грошы. Літаратура цалкам некамерцыйная?*

— Мы спрабуем зараз распрацаваць нейкую схему, якім чынам павінны вяртацца грошы, укладзеныя ў прамоцыю літаратара. Найперш гэта продаж кніг, затым пісьменніцкія выступленні — на іх таксама можна рабіць квіткі. У нашым грамадстве няма такога паняцця, як прафесійны пісьменнік, можа два-тры чалавекі і жывуць з літаратуры, але ў масавай свядомасці гэта яшчэ не замацавалася. Таму ў нас цяжка арганізоўваць гастролі пісьменнікаў гэтакім жа чынам, як гастролі спевакоў.

### А шавец без ботаў

*— На сёння ты аўтарка дзвюх кніжак паэзіі. Ці займалася іх прамоцыяй? Якая прапорцыя існуе паміж укладзенымі ў прамоцыю высілкамі і колькасцю прададзеных кніжак?*

— Не ведаю, ці паверыць мне шаноўныя чытачы, але прызнаюся шчыра — прамоцыяй сваіх кніжак не займалася. Шмат што ў маім жыцці адбывалася само сабой, і гэтыя кніжкі атрымаліся амаль стыхійна. Першая кніжка, "Цуд канфіскаванага дзяцінства", атрымалася неяк увогуле несвядома… Ніякага прыбытку з кніжак не мела. Хачу расчараваць тых людзей, якія мараць быць пісьменнікамі і зарабляць на літаратуры. Гэта вельмі цяжкі шлях, прынамсі ў нашым грамадстве, дзе проста не прапісана такая прафесія. Сітуацыю спрабуем змяніць. Зараз Міхась Бараноўскі праводзіць літаратурна-музычныя вечарыны для моладзі ў музеі Максіма Багдановіча. Ёсць паэтычны тэатр Арт.С, які ставіць пісьменніцтва на больш прафесійныя рэйкі, ёсць слэмы — хапае актыўных людзей, якія рэкламуюць сучасную літаратуру, прыцягваюць да яе ўвагу. Яны робяць унёсак у працэс інтэгравання літаратуры ў шоу-бізнес. Гэта гучыць парадаксальна — улічыўшы, што літаратура на беларускай мове, што гэта інтэлектуальная забаўка. Але за апошні год я зразумела — трэба рызыкаваць, і мы, маладое пакаленне пісьменнікаў, усё правільна робім. Цяперашняя культурная парадыгма можа нас прыняць толькі ў нейкай новай фармацыі. У старой фармацыі, з нашымі папяровымі кніжкамі і традыцыйнымі выступамі, мы проста выпадаем з кантэксту. Трэба шукаць новыя шляхі.

### Хто з'еў наклады

*—Літаратурна-мастацкія часопісы апынуліся на перыферыі літаратурнага працэсу — калі, вядома, не зважаць, што мы жывём у часы постмадэрнізму і паняцце перыферыі дыскрэдытаванае разам з паняццем цэнтру. У чым ты бачыш сэнс сваёй працы як рэдактар аддзела паэзіі літаратурнага часопіса?*

— Мы з зайздросным перыядычнасцю адкрываем новыя імёны. Адна з нашых задач — даць стартавую пляцоўку маладым творцам. Тое, што літаратурныя выданні апынаюцца на перыферыі — заслуга Інтэрнэта. Кожны можа апублікаваць што заўгодна ў сеціве і знайсці сабе чытача. Калі ж чалавек дбае аб прафесійным росце, ён звернецца са сваімі творамі ў часопіс — бо тут існуюць рэдактары, якія нешта могуць падказаць, скіраваць, даць кампетэнтную параду. Тоўстыя часопісы паранейшаму ствараюць літаратурны працэс, ці, прынамсі, частку яго.

*— Але моладзь часта не чытае папяровыя выданні — затое днюе й начуе ў сеціве. Ці ёсць магчымасць у маладых аўтараў атрымаць ад цябе кампетэнтную параду праз Інтэрнэт?*

— У Расіі такая схема ўжо даўно працуе, ды і ў нас яна вядомая — многія творцы, думаю, чулі пра сайт Lito.ru, там ёсць свая рэдакцыя, якая дапамагае кантачыць рускамоўным літаратарам з усёй прасторы колішняга СНД. Але ў нас пакуль няма магчымасці стварыць падобны партал для беларускамоўных аўтараў, хаця і задумы, і спробы былі. Тут патрабуецца фінансаванне — праплаціць хостынг, дызайнера, вэб-забеспячэнне і г.д. А пакуль што, калі парада патрэбная, лістуюся з маімі аўтарамі праз электронную і звычайную пошту, звязваемся па скайпе…

### Паэтычны інтым і дзядзька Слэм

*— Яшчэ адзін са спосабаў папулярызацыі літаратуры — паэтычны слэм. Нядаўна ў Беларусь прыязджаў Марк Сміт, які запачаткаваў сусветны слэм-рух, прайшло адразу некалькі слэм-падзей. Як думаеш, такі від падачы літаратуры здольны пашырыць яе аўдыторыю?*

— Бясспрэчна. Калі мы гаворым пра слэм, дык найперш маем на ўвазе форму падачы, артыстызм, эпатажнасць. Гэта тэатралізаванае выступленне, тут патрэбна майстэрства захапіць, завесці публіку. Артыстызм, візуальнасць слэму спрашчае шлях разумення, дапамагае ўспрыняць самую складаную паэзію. Слэм — як нагляды дапаможнік. Так што мы можам ганарыцца тым, што і ў нас ёсць слэмеры, той жа Віктар Жыбуль, Віталь Рыжкоў, Джэці ды іншыя.

*— На майстар-класах, што нядаўна праходзілі ў Інстытуце журналістыкі БДУ ў рамках літаратурнага конкурсу "Брамамар", мы дагаварыліся да таго, што слэм апынаецца прафанацыяй паэзіі. Бо пакуль усе глядзяць, што паэт робіць на сцэне, забываюцца слухаць, уласна, паэзію. І тэксты на слэм пішуцца адмысловыя — якія здолеюць здзівіць, рассмяшыць, але не больш.*

— Наіўна было б меркаваць, што мы здолеем перайначыць масавую свядомасць. Паэзія будзе зразумелай нямногім, і сукупражванне яе большасці людзей не па сілах. Але, калі гаворка ідзе пра колькасць наведвальнікаў літаратурных імпрэз, — магчыма, слэм дапаможа пашырыць кола, няхай на дзесяць-пятнаццаць чалавек. Зноў жа, гаварыць пра стадыёны, тысячы чалавек, якія прыйдуць слухаць паэзію, — бессэнсоўна. Паэзія — інтымная рэч. Але, магчыма, нашым слэмерам не хапае культуры, асабліва пачаткоўцам, для якіх эпатаж часта становіцца самамэтай. Калі я выходжу на сцэну давесці паэзію — паверце, я яе даводжу. Мэтавая ўстаноўка аўтара таксама мае значэнне. Нельга ставіць крыж на слэме, асуджаць яго залішнюю відовішчнасць і спрошчанасць, трэба проста выхоўваць культуру выступлення.

*— Мо сапраўды варта пакінуць літаратуру — літаратуры, тым самым аматарам рафінату, з якіх мы пачалі гаворку? Якія тэксты ты сама пішаш?*

— Спрабую пісаць канцэптуальныя тэксты. Для мяне ўспрыманне паэзіі, верша — гэта вельмі інтымнае, духоўнае перажыванне, глыбока асабістага характару, гэта жывая эмоцыя. І я лічу, што немагчыма гэтую жывую, аголеную эмоцыю выстаўляць, як у цырку, на ўсеагульны прагляд. Таму я пазіцыяную сябе як канцэптуальнага аўтара. Мая мэта — захаваўшы ўнутраную годнасць, самакаштоўнасць паэзіі, паспрабаваць яе ўпрыгожыць некаторымі атрыбутамі цяперашняга жыцця.

*— Ці ў хуткім часе мы пабачым рэкламу новай кнігі Вікі Трэнас у метро?*

— Гэта пытанне да маіх будучых спонсараў (*смяецца*). Або да мяне як дзяўчыны, якая сама здолее калі-небудзь зарабіць столькі, каб можна было спакойна займацца ўлюбёнай справай. Але я не стаўлю сабе такой мэты — рэкламавацца ў метро, — мне гэта не патрэбна. Бо калі паэт будзе дбаць толькі пра грошы, ён ужо не будзе паэтам.

Памяць Першай сусветнай

# Пад адкрытым небам. Заброддзе

**Мастак Барыс Цітовіч пераехаў з Мінска ў невялічкую вёску Заброддзе Вілейскага раёна больш як тры дзесяцігоддзі таму. У часы Першай сусветнай вайны праз гэтыя мясціны праходзіла лінія фронту. Зямля тут уся паліта крывёю: прыблізна дзве тысячы салдат імператарскай арміі пахаваны каля вёскі Заброддзе і дзясяткі тысяч — па ўсёй Вілейшчыне. Аднак доўгі час пра падзеі 1914 — 1918 гадоў не згадвалі, быццам забыліся. Магілкі апынуліся пад калгаснымі палеткамі, параслі мохам, зраўняліся з зямлёй. З 1975 года Барыс Цітовіч пачаў займацца добраўпарадкаваннем магілак, стварэннем памятных знакаў, помнікаў. Сёння намаганнямі мастака-спадзвіжніка створаны адзіны на Беларусі музейны комплекс Першай сусветнай вайны пад адкрытым небам.**

**Уладзімір ПАДАЛЯК**

Насельніцтва вёскі Заброддзе — 14 чалавек. А ўзімку — і таго меней… У Барыса Барысавіча самая звычайная вясковая хатка: у кухні печ, стары гадзіннік на сцяне, у куце — кацiная талерачка, на стале — варэнне, мёд. У другім пакоі ўсё застаўлена іконамі — гэта своеасаблівая майстэрня мастака. Большасць абразоў напісаны самім Цітовічам.

***

…Перш-наперш, па даўняй беларускай традыцыі, гаспадары гасцінна запрасілі да стала. На гарбузовую кашу.

— Барыс Барысавіч, вы ж раней у Мінску жылі. Чаму ў вёску вырашылі пераехаць?

— Гэтае пытанне мне задаюць усё жыццё. Шчыра кажучы, ужо надакучыла. Напэўна, ні ў воднага чалавека ніколі не запыталіся, чаму ён пераехаў з вёскі ў Мінск (*смяецца*).

У Заброддзе Цітовіч трапіў выпадкова. Але, як сам прызнаецца, гэтага і шукаў: лес, поле, рака… Хацелася бліжэй да прыроды, да звычайных людзей. Такое рашэнне Барыс Барысавіч і яго жонка Валянціна Пятроўна прынялі яшчэ ў студэнцкія гады (яны разам вучыліся ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце). І заробак быў даволі добры пасля заканчэння інстытута: Барыс Барысавіч працаваў на мастацкім камбінаце, яго жонка — на тэлебачанні. Калі да "Палескай хронікі" Івана Мележа зрабіў ілюстрацыі, дык ганарару нават на машыну хапіла. Але ўсё роўна клікала вёска. Мусіць, таму, што самі гараджане, вось і захацелася рамантыкі. А маці Барыса Цітовіча і зараз у Мінску.

***

Усё пачалося ў 1975 годзе, калі 25-гадовы мастак раптам звярнуў увагу на наваколле.

— Неяк у лесе натрапіў на вайсковае захаванне часоў "Мікалаеўскай вайны", — распавядае Барыс Барысавіч. — Магілкі параслі мохам, усё закідана галлём, паваленыя крыжы. Толькі невялічкія купінкі на зямлі… Аднавяскоўцы расказвалі, што ў тыя часы калгас магільную агароджу з ацынкаванага дроту на цвікі пасек. Драўляныя каплічкі паваліліся. Паступова ўсё пачало забывацца. Я як сын вяскоўца і звычайны чалавек не мог заплюшчыць вочы і нічога не рабіць. Пры тым, што такі цяжкі лёс у беларусаў — амаль у кожнага бацька ваяваў у час Першай сусветнай, сын — удзельнік Другой… Так і ў маім родзе было: бацька — кадравы афіцэр, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, дзед змагаўся за Радзіму ў 1914 — 1918 гадах. Калі я ўбачыў такое бяспамяцтва, кашчунства, як мастак і чалавек — пераступіць не змог.



*Фота з асабістага архіва Барыса Цітовіча*

Першая спроба аднавіць магілкі ў сярэдзіне 1970-х гадоў не мела выніку. Не было каму дапамагчы.

— Нават назіралася тэндэнцыя да іх знішчэння. Як жа так, калі армія, якая тут змагалася, на дзве трэці складалася з беларусаў, 600 тысяч нашых землякоў былі прызваныя ў імператарскую армію, лінія фронту праходзіла праз усю краіну і тры мільёны беларусаў сталі бежанцамі? Дык чаму ж яна не мае дачынення да Беларусі?!

На тэрыторыі Нарачанскага сельсавета (сюды ўваходзіць і вёска Заброддзе) — каля 15 пазначаных магілак. А колькі яшчэ — невядома. Паводле архіўных звестак — дзясяткі тысяч чалавек!

***

Ідэя стварэння музея з цягам часу крышталізавалася. Рэшткі Першай сусветнай: доты, бліндажы, занядбаныя магілкі — нагадвалі пра сябе. Час ад часу ў зямлі знаходзілі ўзнагароды, гільзы, рэшткі зброі, салдацкага адзення. І сёння яшчэ сюды прыязджаюць "чорныя" капальнікі, каб зарабіць на знойдзеных рэчах грошы.

— Я звярнуўся ў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь па дапамогу. Прапанаваў стварыць музей пад адкрытым небам па былой лініі фронту, якая праходзіла праз Вілейшчыну, правесці добраўпарадкаванне вайсковых захаванняў, паставіць невялічкія помнікі, гістарычныя даведкі. Такая справа не патрабуе значных грашовых сродкаў, — распавядае Барыс Барысавіч.

Паступова Барыс Цітовіч пачаў займацца гэтай справай сам. Праца рухалася даволі марудна — вядома ж, працаўнікоў было няшмат. Жонка, а пасля і сын Даніла (па адукацыі скульптар) таксама дапамагалі. Увесь час яны працуюць разам.

У той дзень, калі я прыехаў да мастака, дождж ліў не перастаючы. Але гэта нам не перашкодзіла. Мы хадзілі з Барысам Барысавічам пад парасонам па памятных мясцінах у лесе, каля ракі, на полі… Маштабы зробленага па-сапраўднаму ўражвалі. Ён расказваў пра сваю працу, паказваў помнікі, дзяліўся творчымі задумамі.

На месцы вайсковых захаванняў, каля вёскі Рускае Сяло, на штучным кургане ўзвышаецца вялізны белы Георгіеўскі крыж з падпісанымі на ім словамі з малітвы, якой адпявалі салдат: "…Упокой Господи души раб твоих всех воинов на поле брани убиенных… Их имена ты сам Господи знаешь…" Побач з курганом — маленькія крыжы, якія быццам вырастаюць з груды камянёў. Яны нагадваюць салдат, якія калісьці трымалі тут лінію абароны. Пры падыходзе да кургана стаіць гістарычная даведка, а на валуне — карта баявых дзеянняў. Паводле афіцыйных папер — гэта вайсковае захаванне № 16.

— А што тут было раней, страшна ўзгадаць, — прызнаецца мастак. — На месцы захаванняў зрабілі кар'ер, разбурылі царкву… Знаёмы шафёр, які працаваў тут, расказваў, як з каўша экскаватара разам з пяском сыпаліся косткі. А потым тут быў невялічкі асфальтавы завод…

…З усталяваннем крыжа дапамаглі дарожнікі, з добраўпарадкаваннем могілак на ўездзе ў Заброддзе — калгас і звычайныя людзі. Аднадумцы ахвяруюць грашовыя сродкі. У перспектыве тут плануецца ўсталяваць лаўкі, пасадзіць дрэўцы, паставіць кантэйнеры для смецця, зрабіць стаянкі для машын.

— Бясспрэчна, я не скульптар, — гаворыць Барыс Цітовіч. — Гэта не той творчы ўзровень, які б мог быць. Але абавязкова трэба пазначыць гэтыя гістарычныя мясціны і па меры магчымасці нешта рабіць. Я яшчэ распісваю храм у Вілейцы, пішу іконы. Так вось і атрымоўваецца, што ўзімку займаюся роспісам у храме, а ўлетку — працую на стварэнні музея.

Пра ваенныя часці і месцы захаванняў, якія раней тут знаходзіліся, Барыс Барысавіч даведаўся з летапісу протаіерэя Паўла Сасноўскага. Ён 50 гадоў служыў у Святаільінскай царкве ў вёсцы Нарач (недалёка ад Заброддзя), браў удзел у Першай сусветнай вайне, узнагароджаны ордэнам святой Ганны III ступені. У 2006 годзе Барыс Цітовіч зрабіў помнік на яго магіле. Дапамог у пошукавай справе і палкоўнік у адстаўцы Уладзімір Лігута, які доўгі час быў начальнікам пагранічнага атрада ў Смаргоні.

У самой вёсцы Заброддзе, на беразе ракі Нарачанка, стаіць капліца і званіца з гільзай замест звычайнага звона. Такая задума была з самага пачатку — звон быццам плыве па вадзе і становіцца чутным па ўсім наваколлі. На будаўніцтва капліцы Барыса Цітовіча блаславіў у 2001 годзе Уладыка Філарэт. Сёння праца амаль што скончана. Тут праводзяцца царкоўныя службы, ладзяцца творчыя сустрэчы. Капліца носіць імя святых Барыса і Глеба — ахоўнікаў вайскоўцаў. Некалькі ікон у капліцы належаць пэндзлю мастака. Тут жа размешчана невялічкая выстава з экспанатамі Першай сусветнай: ёсць схемы аперацый і баявых дзеянняў, адзенне, узнагароды: з таго, што знайшоў мастак і прынеслі людзі, з копій сына Даніла. Значна дапамог у стварэнні музейнай экспазіцыі сябра Барыса Цітовіча падпалкоўнік Аляксандр Прэсniакоў, які даследуе гісторыю Першай сусветнай вайны.

На будаўніцтва капліцы Барыс Цітовіч ахвяраваў грашовую частку прэміі "За духоўнае адраджэнне" (2003), Вілейскі лясгас выдзеліў 10 кубоў лесу, СВК забяспечвае тэхнікай; аднадумцы, сябры, родныя — дапамагаюць грашыма.

— Гэтая мая дзейнасць — таксама творчая, але тут няма індывідуальнага, — падсумоўвае Барыс Цітовіч. — Усё робіцца талакой. Безумоўна, у такой працы павінен прысутнічаць мастак. Спачатку думаў: ну як жа так, я займаюся не сваёй справай. З іншага боку — Госпаду ўсё адно, што мы робім, галоўнае — як мы гэта робім. Цяпер мне не ўсё роўна, як і што будзе. Я гэта распачаў, і я павінен скончыць працу майго лёсу…

***На здымку: мастак Барыс Цітовіч з жонкай Валянцінай.***



## Чуцен голас яго…

Гэтая снежаньская раніца апраўдвала назву свайго месяца: старалася, падсыпала снегу, перамятала дарогі. Я сумнавата паглядаў у акно, згадваючы сваіх "снежаньскіх" сяброў, бо і сам нарадзіўся ў гэтым месяцы. Сумная вестка даляцела крыху пазней.

Тая, 18-я па календары, раніца назаўсёды забрала ад мяне шчырага сябра Леаніда Адамавіча Дзеркача. Яго, галінку ад роду таленавітага беларускага пісьменніка Міколы Нікановіча, многія памятаюць па адметным голасе, які ў 1970 — 1980-я гады мінулага ўжо стагоддзя шырока гучаў у радыёэфіры. Тады Леанід Дзяркач працаваў на Беларускім радыё. З таго часу ведаю яго і я.

Нарадзіўся Л. Дзяркач 5 снежня 1938 года ў Чэрвені. А школу заканчваў у Нясвіжы, дзе нейкі час жыла сям'я. Потым скончыў Маглёўскае культпрасветвучылішча, доўгі час працаваў кінамеханікам.

Да літаратуры Леанід адносіўся з асаблівай павагай. Магчыма, да гэтага абавязвала імя М. Нікановіча, хоць сам за пяро браца не адважыўся. А вось голасам сваім быў заўважаны. Так і апынуўся ў дыктарскай "радыйнай" сям'і. Гэтым голасам потым агучвала свае станцыі мінскае метро.

Я дасюль не забуду вёску Кляннік у Смалявіцкім раёне, куды аднойчы летам запрасіў нас з дыктарам і паэтам Міколам Чырыкам Леанід. Сцены тае хаты, у якой мы гасцявалі, добра памятаюць і крокі самога Нікановіча. Можа, таму яны і былі такімі дарагімі яму, маці, ягоным сёстрам. Хараша глядзелася і прыбудоўка да яе, узведзеная рукамі нашага сябра. Я не прамінуў, каб не згадаць тое ў вершы:

*Як цацка,*
*стаіць прыбудоўка твая,*
*І слаўная песня*
*ў твайго салаўя!*
*Па свеце ўсім*
*разышліся сыны,*
*І ўжо адыходзяць*
*памалу кляны.*

Вёсачку з кляновай назвай пакідаюць не толькі "кляны", але і людзі. Вось не стала і яго. А ў памяці застаецца добры і светлы вобраз і голас, які чуваць мне і праз снежную завею…

**Казімір КАМЕЙША**

Калектыў РВУ "Літаратура і Мастацтва" выказвае шчырае спачуванне сям'і Пікулік з прычыны вялікага гора — смерці МУЖА І БАЦЬКІ.

# Будучая класіка?

## Жанравыя сцэнкі з літбыцця эпохі Шоуцэнтрызму

Ірына ШАЎЛЯКОВА

Пра літаратурацэнтрызм (колішні) *сапраўднай* беларускай культуры ведаюць (сёння) толькі тутэйшыя літаратуразнаўцы. Затое пра шоуцэнтрычнасць наяўнай культурнай сітуацыі інтуітыўна здагадваецца кожны… Калі ў 1990-х бумбамлітаўцы намагаліся рэанімаваць “стары” літаратурацэнтрызм праз мадэрновыя па тым часе *культурна-асветніцкія* формы, то наведвальнікам Цэнтральнага дзіцячага парку імя Максіма Горкага, напрыклад, яны падаваліся відавочнымі “антыгероямі” (думаю, не абыходзілася і без згадак пра нячысцікаў). Аднак і сённяшнія рупліўцы так званага актуальнага мастацтва слова, нягледзячы на ўсе намаганні ***годна*** (тут: на правах не бедных сваякоў-маргіналаў, але ў статусе *starring*’аў, спецыяльна запрошаных “зорак”) “прапісацца” ў наяўнай сацыякультурнай прасторы, чамусьці не прызнаюцца суайчыннікамі за культурных герояў. І няхай сабе — калі б згаданую нядобразычлівасць дэманстравалі толькі абывацелі, якія нават твор найноўшай беларускай літаратуры, абвешчаны ў афіцыйнай прэсе шэдэўрам, уважаюць за дэталь касмічнага карабля — бліскучую, але для гаспадаркі абсалютна непрыдатную.

Адзін з выпускаў “альманаха сучасные беларускае культуры” *pARTisan* (№ 10, 2009; выдавец І. П. Логвінаў) быў прысвечаны тэме “Канец словаў”. Ідэя “вечнага” арт-календара з тэкстамі і насамрэч *адмысловымі* выявамі актуальных беларускіх літаратараў розных узростаў і вагавых катэгорый належала, калі верыць выходным дадзеным, Марыі Мартысевіч, канцэпцыя — Дар’і Сітнікавай і Максіму Жбанкову. Намеры ў аўтараў-укладальнікаў былі самыя што ні на ёсць стваральныя: “Гэтым праектам мы рабілі спробу разбурыць нафталінавыя канатацыі брэнду “белліт”. Магчыма, “альтэрнатыўны гламур” з элементамі “ню” — правільныя дзверы ў пошуках выхаду з субкультурных кулуараў на шырокі маскультурны прастор. <…> Тут стыль знаходзіць мову”.

Аднак *annahonda* ў сваім блогу (*LJ*) так адрэагавала на з’яўленне “прэцэдэнту комплекснай прамоцыі беларускай літаратуры праз аранжыроўку актуальных тэкстаў небанальным візуальным шэрагам” (гэтак атэставалі “арт-каляндар” самі яго ўкладальнікі): “Паглядзела, пачытала. І вось што я скажу… Тут так — альбо не жраць, альбо не фатаграфавацца… Буржуйскі тлушчык на літаратарскіх целах перакрэсліў увесь радыкалізм праекту” (*“Трэба меней жраць!”*; 19.06.2009).

Прыведзеная жанравая сцэнка з роднага літжыцця ў дадзеным выпадку цікавая не столькі экспрэсіўнасцю высноў, колькі той мараллю, якая вылузваецца ў “сухім астатку”. З сутарэнняў субкультуры на бульвар маскульту выбрацца можна праз самыя нечаканыя дзверы, можна нават і без дзвярэй абысціся — выскачыць як Піліп з канапель. Галоўнае — не паўстаць перад публікай з голай… сутнасцю, у строях вядомага персанажа казкі Г. Х. Андэрсена. Інакш кажучы, у сённяшняй сацыякультурнай сітуацыі беларускаму літаратару недастаткова прадуцыраваць ідэі (рэвалюцыйныя, арыгінальныя і да т.п.). Ён мусіць з вялікай абачлівасцю выпускаць іх у свет, рацыянальна (!) пралічваць шляхі ды спосабы іх рэалізацыі, а таксама ўзважваць магчымыя наступствы, бо разам з “нафталінавымі канатацыямі” можа няўзнак ляснуцца і *белліт* як такая.

“ Стасункі беларускага пісьменніка з беларускім жа чытачом на мяжы ХХ — ХХІ стагоддзяў асмужаныя адмысловай напружанасцю, нават нервовасцю. З пэўнай доляй умоўнасці іх можна выразіць з дапамогай усечанага варыянта вядомага двухрадкоўя Катула: “Odi et amo. Excrucior” (у вольным перакладзе: “Ненавіджу і кахаю. Змучаны-ы-ы…”). Прычым, на думку цэлага шэрагу літаратуразнаўцаў і крытыкаў (Л. Сіньковай, Л. Алейнік, А. Бязлепкінай), раўнавага паміж чыннікамі прыведзенай формулы ўсё часцей парушаецца ў бок першага складніка.

Стасункі беларускага пісьменніка з беларускім жа чытачом на мяжы ХХ — ХХІ стагоддзяў асмужаныя адмысловай напружанасцю, нават нервовасцю. З пэўнай доляй умоўнасці іх можна выразіць з дапамогай усечанага варыянта вядомага двухрадкоўя Катула: “Odi et amo. Excrucior” (у вольным перакладзе: “Ненавіджу і кахаю. Змучаны-ы-ы…”). Прычым, на думку цэлага шэрагу літаратуразнаўцаў і крытыкаў (Л. Сіньковай, Л. Алейнік, А. Бязлепкінай), раўнавага паміж чыннікамі прыведзенай формулы ўсё часцей парушаецца ў бок першага складніка. На думку А. Бязлепкінай, напрыклад, “вялікі пісьменнік звычайна крытычна глядзіць на свет: ён даследуе праблемы грамадства, але ўжо ад узроўню таленту залежыць, ці будзе ён адчуваць мяжу, за якой — самаразбурэнне, ці не будзе ён ставіць крыж на суайчынніках. Верагодна, трэба меней грэблівасці, меней снабізму… <…> Але тады паўстае чарговае натуральнае пытанне: што з’яўляецца мэйнстрымам у сучаснай беларускай літаратуры? Верагодна, святое месца пустым не бывае, і туды, дзе павінна была знаходзіцца будучая класіка… хлынула тое, што было ў наяўнасці (“эксцэнтрычная і заходнецэнтрычная” літаратура і г.д.)”.

У наяўнай літаратурнай сітуацыі беларускае прыгожае пісьменства змушана трываць кругавую абарону. Вораг № 1 “сур’ёзнага” (“высокага”) мастацтва — маскульт — з’яўляецца для сучаснай беларускай літаратуры пагрозай рэальнай, але, як ні парадаксальна, другаснай. Без перабольшання смяротнай пагрозай для найноўшага беларускага мастацтва слова паўстае не імклівы наступ масліту, але няўмольны сыход чытача.



Малюнак Алесі Ісы

Беларускія пісьменнікі розных пакаленняў відавочна стаміліся ад уласнае культурнае адзіноты. Зрэшты, не толькі пісьменнікі, але і літаратуразнаўцы апошнім часам актывізавалі пошукі выйсця з той “рэзервацыі паўзы”, якая з кожным годам усё больш герметызуецца (у сувязі з фактарамі як знешнелітаратурнымі, так і ўнутрылітаратурнымі).

Старэйшае літаратурнае пакаленне згаданы пошук вядзе ў кірунку больш ці менш традыцыйным, ці, прынамсі, ашчадным у дачыненні да гонару публікі. Варта згадаць, напрыклад, шматлікія працы М. Мушынскага, прысвечаныя “новаму прачытанню” твораў нацыянальнай класікі, або ідэю Р. Баравіковай зрабіць беларускую дзіцячую літаратуру новым брэндам нацыянальнага прыгожага пісьменства. У сваю чаргу, маладзейшыя літаратары не марнуюць час на тое, каб роднага чытача *ўгаварыць* вярнуцца ва ўлонне роднай літаратуры: яны абіраюць спосабы больш радыкальныя, нярэдка аддаючы перавагу своеасаблівай “шокатэрапіі”. Сімптаматычна, што ў апошні час методыка яе выкарыстання ў айчыннай літаратурнай прасторы “ўзбагачаецца” якраз за кошт інструментарыя масмедыя.

“ Сеціва — гэта сапраўды цэлы свет; але ніводзін чалавек не жыве адразу ва ўсім свеце; далягляды таго ці іншага чалавека могуць быць больш ці менш шырокімі, але рэальная (актуальная) жыццёвая прастора даволі абмежаваная. Гэтаксама перанос уласнай літаратурнай актыўнасці выключна ў Інтэрнэт (які ўтрымлівае бясспрэчна шырокія магчымасці індывідуальнай актуалізацыі) пабочным эфектам мае віртуалізацыю, узмацненне “ілюзійнасці” як самой асобы літаратара, так і плёну яго творчасці.

Годная альтэрнатыва вобразу сціплага, нехлямяжага беларускага пісьменніка, які пачуваецца на публіцы, як коласаўскі “дзядзька ў Вільні”, з’явілася задоўга да таго, як сённяшнія ўдзельнікі літаратурнага працэсу пачалі асвойваць навуку быць зоркай Сеціва. Так званаму сярэдзіннаму пісьменніцкаму пакаленню ў гэтым сэнсе ёсць чым, дакладней, ёсць кім ганарыцца: згадаем хоць бы Леаніда Дранько-Майсюка, універсальнасць літаратурнага таленту якога (колісь — паэт, сёння — паэт/празаік, заўтра — …) як бы “працягваецца” ў таленце быць публічнай асобай “высокай культуры”. Поспехі яго маладзейшых калег у гэтым сэнсе, бадай, паўстаюць больш спрэчнымі. У любым выпадку, *асабістае, інтымнае* літаратурным пакаленнем, да якога належыць Л. Дранько-Майсюк, *шыфравалася* ў мастацкіх вобразах. Сёння ж складваецца ўражанне, быццам некаторыя літаратары заводзяць блогі ў Сеціве выключна дзеля таго, каб апаненты (ворагі ў межах прафесіі) курчыліся ад зайздрасці, узіраючыся ў тое, што “прасунутыя” літаратары п’юць, чым харчуюцца, у якіх замежных вандроўках вучацца *родзіну любіць* і не любіць тых, хто *родзіну любіць* не дае. Заклапочанасць статусам беларускай літаратуры як аўтэнтычнага культурнага феномена ў нашы цікавыя часы, здаецца, адваротна прапарцыянальная медыязапатрабаванасці (медыяпоспеху) канкрэтнага літаратара, які клапоціцца пра актуальнасць уласнае персоны больш, чым пра мастацка-эстэтычныя вартасці таго, што ім пішацца. Навошта ўдасканальваць той тавар, што пакуль і так добра прадаецца? І ўсё было б добра, калі б *працэс* тым часам не йшоў.

М. Тычына звяртае ўвагу на адну цікавую заканамернасць: “Тутэйшыя”, “Таварыства Вольных Літаратараў”, “Бум-Бам-Літ”, “Новы Фронт Мастацтваў” — “суполкі, якія ўзнікалі і існавалі з перыядычнасцю ў пяць гадоў. Менавіта з такой перыядычнасцю, паводле назіранняў культуролагаў, існуюць і знікаюць у канцы ХХ і ў пачатку ХХІ ст. інавацыі ў сферы эстэтыкі. Прыкметна, што ў апошні час гэты працэс паскорыўся, а літаратурная мода змяняецца ледзь не пасезонна. Чытач яшчэ не паспеў звыкнуцца з паняццем “літаратура бумбамлітаўцаў”, як у друку ўжо замільгала назваслоўе “постбумбамлітаўская літаратура”.

Амаль калейдаскапічная (з пункта гледжання гісторыка-літаратурнай рэтраспектывы) змена з’яў у беларускім літаратурным працэсе на мяжы ХХ — ХХІ стагоддзяў абумоўленая тымі ж агульнымі тэндэнцыямі, якія вызначаюць спецыфіку развіцця мастацкай культуры ў інфармацыйным грамадстве. Адным з наступстваў паскарэння тэмпаў культурнай

эвалюцыі канкрэтна для прыгожага пісьменства стала тое, што *слова* як альфа і амега літаратуры змушанае ўсур'ёз канкураваць з *вывай*. Парадокс заключаецца ў тым, што імкненне некаторых рупліўцаў актуальнай літаратуры напоўніцу выкарыстаць магчымасці шоуцэнтрычнай культуры ў стратэгічных мэтах дае нечаканы плён.

Арганізатары Трэцяга міжнароднага літаратурнага фестывалю, які праходзіў у 2008 годзе ў Львове ў межах XV Форуму выдаўцоў, у якасці галоўнай тэмы акрэслілі наступную: "Література в епоху мас-медіа". Невялікая, але надзвычай змястоўная ды энергічная прадмова да "Альманаха", выдадзенага спецыяльна да фэсту, заваблівала чытача (які проста абавязаны быў стаць гледачом) абяцаннямі "ефектних несподіванок, гепенінгів та концептуальних читань", безданню музыкі, відэа, найноўшых камп'ютарных тэхналогій. Але замест чаканай жыццесцвярджальнай высновы-вокліча (кшталту: "Будзьма! Forever!") прадмова была падсумаваная далёка не рытарычным пытаннем: "…Чи, "померши" наприкінці двадцятого століття, автор воскрес у двадцять першому, але вже як медіа-ікона, торгова марка, логотип з обкладинки?".

Калі вярнуцца да праблемы актуалізацыі беларускай літаратуры ў найноўшай культурнай прасторы і паглядзець на яе ў ракурсе працытаванага пытання, давядзецца прызнаць: новыя ўдзельнікі літпрацэсу, з якімі звязваюцца надзеі на рэанімацыю ідэй літаратурацэнтрызму беларускай нацыянальнай культуры, *ад пачатку нараджаюцца ("вылупліваюцца") у выглядзе "медыя-іконы"*, арэал бытавання якой бязмежны толькі на першы погляд. Сеціва — гэта сапраўды цэлы свет; але ніводзін чалавек не жыве *адразу ва ўсім свеце*; далягляды таго ці іншага чалавека могуць быць больш ці менш шырокімі, але рэальная (актуальная) жыццёвая прастора даволі абмежаваная. Гэтаксама перанос уласнай літаратурнай актыўнасці выключна ў Інтэрнэт (які ўтрымлівае бясспрэчна шырокія магчымасці індывідуальнай актуалізацыі) пабочным эфектам мае *віртуалізацыю*, узмацненне "ілюзійнасці" як самой асобы літаратара, так і плёну яго творчасці. Па вялікім рахунку, адносна буйныя інтэрнэт-рэсурсы (напрыклад, парталы, што спецыялізуюцца на беларускай літаратуры) у нас развіваюцца з меншым імпэтам, чым можна было б чакаць. Частка літаратурнага людства пазашывалася ў персанальныя сайты ці блогі, мяркуючы, што магчымасць сябраваць ці лаяцца прыкладна з 1000 чалавек — і ёсць найкарацейшы шлях да вечнасці. Нельга сцвярджаць, што ў Сеціве па-вызначэнні не можа існаваць і развівацца літаратура як **мастацтва** слова. Але трэба мець на ўвазе, што гэта будзе *спецыфічнае* існаванне і *спецыфічнае* развіццё *спецыфічна* структураванай, *умоўна мастацкай* славеснасці — *сеціратуры* (*амальлітаратуры*, квазілітаратуры — калі суадносіць яе з сутнасцю паняцця, якое сёння функцыянуе ў сучасным гуманітарным дыскурсе). Гэта не добра і не кепска, гэта — дадзенасць: канкрэтная сістэма каардынат дэтэрмінуе характарыстыкі і спецыфіку функцыянавання аб'екта.

Такім чынам, маладзейшае пакаленне беларускіх літаратараў, якое, здавалася б, мае шыкоўныя магчымасці з цэлым *сусветам* гутарку весці, заганяецца ў тую ж культурную "рэзервацыю", што і іх старэйшыя калегі; прычым "высокатэхналагічнасць" адпаведнага сегмента можа стаць не бонусам, але гарантыяй больш надзейнай герметызацыі.

На мой погляд, надзвычай важным — для справы рэальнай актуалізацыі беларускага прыгожага пісьменства як мастацкага феномена — сёння становіцца такі фактар літаратурнага працэсу, як "ідэйна-творчае ўзаемадзеянне" стваральнікаў літаратуры. Справа не ў тым, што яго (узаемадзеяння) няма; праблема ў тым, што адбываецца яно ўнутры малакалькасных "элітарных" груп (груповак) і, як правіла, не мае колькі-небудзь рэзананснага вонкавага "выхаду", не арыентуецца мэтава на дасягненне колькі-небудзь пэўнага сацыякультурнага выніку. Інакш кажучы, пераканаць недаверлівага чытача ў тым, што беларуская літаратура (як адна з інкарнацый *беларушчыны*) яшчэ жыве, можна толькі з дапамогай рэчыўных доказаў, а менавіта: жывых літаратараў у фармаце жывога літаратурна-мастацкага відовішча (дзеля зручнасці публіка можа лічыць яго шоу). Пад згаданым відовішчам маюцца на ўвазе падзеі, што ў змястоўных і фармальных адносінах *адэкватныя* выклікам эпохі і пры гэтым працуюць на сапраўды культурную мэту. Размова ідзе не пра мастачковыя шоу, "выгнутыя" пад контуры эрзац-культуры, але пра такія *дзеі*, пэўная колькасць якіх, выбудаваная ў адпаведнай стратэгічнай паслядоўнасці, здольная распачаць *працэс сапраўднага акультурвання чытача* праз актуалізацыю нацыянальнай літаратуры.

Дзеля справядлівасці заўважым: "авангардыстыя" ў гэтым сэнсе больш дзейсныя, чым "традыцыяналістыя", да ўсяго (што важна для мяне асабіста), выяўляюць схільнасць да дзеяў напафасных. Тыя літаратурна-мастацкія фэсты, перформансы, прэзентацыі, вечарыны, акцыі і г.д., якія імі ладзяцца сёння ў Беларусі, магчыма, не цягнуць на колькі-небудзь маштабную *культурніцкую стратэгію*, але цалкам могуць уважацца (пры жаданні, якое я — маю!) за тактычныя захады, сукупнасць якіх будзе мець плён.

# Яшчэ адно слова пра хайку

*Пачатак зацікаўленням японскай паэтычнай традыцыяй у нашай літаратуры паклаў Максім Багдановіч. Трэба сказаць, што японскія танка і дагэтуль уражваюць сваёй вытанчанай эмоцыяй, мяккасцю і кананічнасцю. Далей асваенне японскай культуры ішло ў разняволенай манеры наследаванняў і перайманняў, якія далёка не заўсёды мелі хоць нешта сугучнае з культурай-арыгіналам. З'яўляліся і спробы перакладаў хайэдзынаў-класікаў: Басё, Іса, Бусон — усе яны пакрысе станавіліся роднымі беларускаму чытачу, у тым ліку і дзякуючы новай інфармацыйнай сітуацыі, дзе кароткая эмацыянальная ўспышка з удзячнасцю ўспрымаецца перагружаным розумам, лёгка кладзецца на душу. У цыкле артыкулаў пра цвёрдыя класічныя формы паэзіі Усходу малады даследчык Таццяна Шышова падрабязна распавядзе пра ўмовы акліматызацыі японскіх традыцый на беларускай глебе.*

**Аддзел крытыкі штотыднёвіка "ЛіМ"**

Таццяна ШЫШОВА

**Самая папулярная ўсходняя форма ў сучаснай беларускай паэзіі, несумненна, хайку. З прычыны сваёй папулярнасці яна паступова страчвае свой статус маргінальнага жанру. Трэба адзначыць, што і ўласна японскі хайку адчуў на сабе ўплыў еўрапейскай паэзіі. Гаворка наконт таго, як павінен выглядаць сапраўдны хайку — запісаны ў адзін радок ці тры — адлюстроўвае змешванне ўсходніх і заходніх традыцый. Справа ў тым, што першапачаткова хайку запісваўся ў адзін радок, аднак пазней японскія паэты на манер еўрапейскіх сталі падзяляць хайку на тры радкі.**

Так ці інакш для традыцыйнага хайку характэрны наступныя параметры:

а) форма: заўсёды складаецца з 17 складоў і падзяляецца на паўзы на 5-м і 12-м складах;

б) змест: суадносіны аўтара, яго знешняга свету з прыродай, пры гэтым прырода павінна быць вызначана адносна пары года. Вяршыняй майстэрства лічыцца апісаць у трох радках момант, дзе першы радок адказвае на пытанне "дзе?", другі — "што?", трэці — "калі?". Аднак у сучаснай беларускай паэзіі дастаткова рэдка сустракаюцца такія "ідэальныя" хайку. Адзінае, што захоўваюць беларускія хайку, — гэта адсутнасць рыфмы і запіс у тры радкі. Зараз нават можна сустрэць цэлыя паэмы, напісаныя хайку (напрыклад, у кнізе А. Спрынчан "ЖываЯ"). Асвойваюць беларусы і іншыя мадыфікацыі знакамітай японскай формы. Так, А. Арашонак звярнуўся да такой формы, як сэнр'ю. Сэнр'ю — фармальна адпавядае хайку і мае гэткую ж складовую будову (5-7-5), але аддае перавагу метафарам і пародыі:

*Жанчына прачнулася, а пад*
*сэрцам яшчэ спіць цэлы*
*сусвет.*

Пацвярджэннем таго, што хайку не толькі становіцца сваім жанрам у беларускай літаратуры, але ўплывае на творчасць паэтаў, з'яўляюцца трохрадкоўі, якія фармальна нельга лічыць хайку, аднак сувязь з усходнім жанрам — відавочная. Дарэчы, гэта могуць быць не толькі трохрадкоўі, але і кароткія формы з 4 — 5 радкоў, якія, як і хайку, апісваюць момант, імкненне. Такімі, напрыклад, з'яўляюцца трохрадкоўі Я. Чыквіна:

*Свяча рассвятляе сон*
*Ноч паглынае свячу.*
*Клюе птах ружовы куст.*

Часам паэты свядома прыдумваюць свае ўласныя формы, падобныя на хайку. Так, напрыклад, Ю. Новік свае кароткія вершы назвала імгненнямі. Па форме імгненні з'яўляюцца кароткімі — ад 3 да 6 радкоў — вершамі без рыфмы, па змесце — апісанне моманту, імгнення, адсюль, зразумела, і назва жанру:

*Ноч надзьмулася:*
*Сухой наглыталася спёкі.*
*А на небе — нямы хмараход.*

Аднак самую трапную назву для хайку абраў А. Разанаў — пункціры. І сапраўды, хайку ўяўляе сабой нешта накшталт пункціраў, якія разам утвараюць адну лінію. Пункціры А. Разанава ўяўляюць кароткія формы (ад 4 да 6 радкоў), без жорсткіх правіл пабудовы. Наяўнасць ці адсутнасць рыфмы, колькасць складоў, тэмы — усё залежыць ад волі паэта. Некаторыя пункціры А. Разанава нагадваюць яго ж версэты, праўда ў надта скарочаным выглядзе. Такія пункціры лёгка падзяліць на дзве часткі. Першая — інфарматыўная, другая — тлумачальная. Пункціры падобнага роду лёгка знайсці нават візуальна — часткі звычайна раздзелены працяжнікамі:

*Паміж дзвюма бязданнямі*
*маўчання*
*пульсуе думка —*
*голас пра маўчанне.*



І вобразы ў пункцірах А. Разанава ўжо знаёмыя. Так, вельмі часта ўзгадваюцца шлях, сцежка, прычым часта гэта шлях нябожчыкаў, шлях незваротны:

*Сярод усіх вятроў*
*адзін спадарожны.*
*Сярод усіх шляхоў*
*адзін незваротны.*

Некаторыя пункціры настолькі нагадваюць хайку, што толькі крыху іншая колькасць складоў не дазваляе лічыць такія трохрадкоўі паўнавартаснымі хайку:

*Акрыла наўколле шэрань:*
*кветкі паніклі,*
*камень зацвіў.*

Таксама характэрную назву даў сваім трохрадкоўям С. Чыгрын — калізіі душы. Думаецца, такая назва і адлюстроўвае прыхільнасць паэтаў да хайку. Лаканічнасць, адсутнасць рыфмы, часам нават думкі — што яшчэ патрэбна, каб максімальна перадаць самыя дробныя зрухі ў душы аўтара. Трохрадкоўі С. Чыгрына адносяцца да інтымнай лірыкі:

*Я прысвяціў табе вершы,*
*А табе хацелася салодкага віна,*
*Каб запіць маю горкую паэзію.*

А. Макрацоў для сваіх кароткіх радкоў дае назву — парцэлы. Улічваючы, што ўвогуле парцэла — гэта маленькі надзел зямлі, назва матывавана перш за ўсё памерам вершаў. А. Хадановіч таксама мае трохрадкоўі — антырыфмы. Яны адрозніваюцца ад папярэдніх прыкладаў, бо хутчэй адносяцца да гульнёвых эксперыментаў, чым да ўсходняй лірыкі.

***Экзамен.***
*Экзотыка?*
*Экзекуцыя?*
*Экзыстэнцыя!.*

Як бачна, антырыфмы складаюцца з трох слоў, якія пачынаюцца адной і той жа літарай, а назва з'яўляецца кансалідуючым элементам усяго верша. Ва ўмовах такой жорсткай эканоміі слоў нават інтанацыя набывае вялікую значнасць. Галоўны эфект такіх вершаў заключаецца ў тым, што чытач пачынае шукаць сувязь паміж трыма словамі, акрамя таго, што ўсе яны пачынаюцца адной літарай, паміж словамі і назвай, што далучае чытача да творчай дзейнасці.

Сам па сабе жанр хайку можна дастаткова лёгка аднесці да маргінальных, бо ён знаходзіцца на мяжы дзвюх адрозных культур. Аднак лёс гэтай формы ў беларускай паэзіі даволі "шчаслівы", калі параўноваць яго з іншымі маргінальнымі жанрамі. Хайку не толькі вельмі часта сустракаецца ў беларускай паэзіі, але яшчэ і аказаў значны ўплыў на стварэнне паэтамі сваіх уласных жанраў.

# Паэзія



Галіна Загурская

* * *

*Ці то шчасцем павеяла сёння,*
*Ці то гора маё адышло:*
*Я адчула сябе гэтак вольна,*
*Зноў душа — крышталёвае шкло.*
*Мая доля блукала па свеце,*
*Нейкі крок мне было да бяды,*
*І халоднай здавалася квецень,*
*Бо шукала я марна сляды*
*Свайго шчасця — яно заблукала,*
*Мне пакінула смутак на схоў,*
*Але сёння ізноў загучала*
*Песня вечара — ціха, без слоў…*

## У чаканні свята

*Год завяршае свой бег:*
*Чымсьці сагрэў, абнадзеіў,*
*Зроблена нешта наспех,*
*Іншых мінуць бы падзеяў…*
*А наваколле пяе —*
*Часу напружаны струны…*
*Ма́е год кожны свае*
*Вехі, і памяць, і руны:*
*Нешта адпрэчыць зусім,*
*Нешта запіша ў скрыжалях…*
*Год адыходзіць. За ім —*
*Свята надзеяў і жалю.*

## Пад кружэнне сняжынак

*Час надышоў для зімовай завеі:*
*Неба ўзмахнула самотным крылом*
*І засцілае зямлю і надзеі*
*Разам з апошнім апалым лістом.*

*Кружыцца,*
*кружыцца снег над раллёю,*
*Гэтак жа лёгка і думкі бягуць:*
*Нібы сняжынка, лячу над зямлёю —*
*Хараша, мройна, і далі завуць.*

*З нечым зміруся, а нешта адпрэчу —*
*Одум такі надышоў спакваля…*
*У задуменны суцішаны вечар*
*Зорка надзеі мне свеціць здаля.*

## Ноч варожыць…

*Ноч мне дзіўная варожыць*
*Разам з поўняй у тумане,*
*Што жыццё яшчэ закружыць*
*У надзеях і ў падмане.*

*Праз узлёты і падзенні*
*Будзе радасць, будзе гора,*
*Будуць розныя адценні*
*Дня, што з'явіцца ўжо скора.*

*Ноч мне нешта ж наварожыць,*
*Прытаіўшыся ў лагчынах:*
*І яна плыве, трывожыць…*
*А ці ёсць таму прычына?*

## На мяжы

*Раскажы пра сябе, раскажы,*
*Прагані здань халоднай зімы:*
*Ці далёка да мройнай мяжы,*
*За якой толькі мы, толькі мы.*

*Пра бяссоніцу мне раскажы,*
*Што блукае ў даўжэзнай начы…*
*Усміхніся з адчайнай мяжы.*
*Не маўчы, не маўчы, не маўчы.*

## Зіма

*Зімовы праўдзіцца статут:*
*Марозны ранак, скрыпы крокаў,*
*Снягір вясёлы тут як тут*
*Чырвонай плямкай вабіць вока.*

*З карункаў срэбраны прыкід*
*Зіма накінула на голле —*
*Чаруе казачны прывід*
*Ружовай раніц раздолле.*

*Зары румянай паясок*
*Праклаў на небе шлях свяцілу,*
*Іду і слухаю свой крок —*
*І адчуваю ў кроках сілу.*

## Але ж ляцяць сняжынкі лёгкія…

*Чаканай весткай мне не ўсцешыцца —*
*Яе няма. Вакол зіма.*
*І ўжо ні ў чым не разняверыцца,*
*Бо верыць не хачу сама.*

*Бязмежжа крокаў квола-крохкае*
*Да тых ласкавых, лепшых слоў…*
*Але ж ляцяць сняжынкі лёгкія*
*Сярод зімы ў пяшчоту сноў.*



Фота Кастуся Дровава



Генадзь Аўласенка

## Зімовыя замалёўкі

* * *

*Стаяць яліны ў снегавых уборах.*
*Сасна — нібы гітарная струна…*
*І цішыня такая сярод бору:*
*Ледзь дакраніся — зазвініць яна.*
*Ды гэты звон у лесе скамянелым*
*Адразу ж сціхне,*
*знікне,*
*прападзе…*
*У шапцы белай,*
*па сцяжынцы белай*
*Зіма нясмела*
*паміж дрэў ідзе.*
*І пальцамі*
*ствалы перабірае,*
*Нібыта струны*
*ў снегавой цішы.*
*І штосьці грае…*
*Так чароўна грае…*
*Для сэрца*
*І, вядома,*
*для душы…*

* * *

*За адлігай ідуць халады…*
*Галалёд — нібы шкло на дарозе…*
*Ці далёка зімой да бяды!*
*Месяц срэбны — такі малады,*
*Быццам серп хто закінуў туды…*

*Значыць, з раніцы зноў падмарозіць…*

* * *

*Учора капяжы звінелі,*
*А зранку нібы анямелі,*
*Схаваўшыся пад ледзяшы…*
*Ці гэта мроіцца, ці сніцца?*
*Як так магло за ноч змяніцца,*
*Бліскучай шэранню пакрыцца?*

*І толькі цінькаюць сініцы*
*У стылай ледзяной цішы…*

* * *

*Над зямлёй ляцяць сняжынкі.*
*На сцяжынцы я стаю…*
*Ціха падаюць сняжынкі*
*На далонь маю…*
*Ціха падаюць сняжынкі*
*На сцяжынку і на дом…*
*І не бачна ўжо сцяжынкі*
*За бялюткім палатном.*
*Ўсё вакол заледзянела,*
*Скамянела да пары…*
*І, прыкметныя на белым,*
*Чырванеюць снегіры.*

* * *

*Палонка —*
*ад слова "палон"…*
*Сцяжынка*
*сышла пад адхон.*
*Сцяжынцы да рэчкі пара —*
*Ды там ледзяная кара!*
*Ды рэчка ў палоне даўно,*
*І толькі палонкі адно*
*Акно…*
*І трывожныя сны*
*У доўгім чаканні вясны,*
*І мары,*
*трызненні праз сон…*

*Палонка —*
*ад слова "палон"…*

* * *

*Мароз… адліга… зноў мароз…*
*Усё змяняецца на свеце:*
*Учора вецер снег прынёс,*
*А сёння сонца ясна свеціць.*
*А заўтра можа дождж пайсці,*
*І знікнуць гурбы на гародзе…*

*Усё змяняецца*
*ў прыродзе…*
*Усё паўторыцца*
*ў жыцці…*



Генрых Тарасевіч

## Навагоднія летуценні

* * *

*Новы год — суквецце мараў,*
*Спадзявання і надзей.*
*Хмель жыцця, жаночых чараў —*
*Безліч радасных падзей!*

*Што было, таго не будзе,*
*Што балела — адышло.*
*У зімовым, снежным цудзе*
*Згінуць боль, журба і зло.*

*Нам ісці сваім хаўрусам*
*Ад нядолі, ад бяды.*
*Памажы, Бог, беларусам*
*Годным шчасця быць заўжды!*

* * *

*Слаўныя мясціны*
*Ў нас на Беларусі,*
*Добрыя дзяўчыны —*
*Ганны ды Марусі!*

*Любыя жанчынкі —*
*Жонкі ды каханкі!*
*Гнуткія галінкі,*
*Ясныя заранкі.*

*Светлыя хусцінкі,*
*Смелыя жаданні.*
*Лёгкія пушынкі,*
*Шчырыя прызнанні.*

*Звонкія крынічкі,*
*Познія змярканні.*
*Вузкія спаднічкі,*
*Цёплыя спатканні.*

*Кампліментаў — годзе! —*
*Шмат казаць не буду.*
*Бо няма ў прыродзе*
*Больш такога цуду!*

*Толькі вось што зараз*
*Мне сказаць патрэбна:*
*Як не пакахаць вас,*
*Дык і жыць дарэмна!*

* * *

*Я не ведаю, што са мною.*
*Годы мчаць і вяртаюцца ў сне.*
*З імі думы ляцяць чарадою*
*Аб той даўняй студэнцкай вясне.*

*…Ты прыйшла да мяне нечакана,*
*Быў тады я ў разладзе з сабой*
*І кахання нядаўняга рана*
*Моцна сэрца праца́ла журбой.*

*Ты прыйшла да мяне, прыляцела,*
*Як маланка, як фея, як сон.*
*Цеплыня твайго вабнага цела*
*Думы-мроі забрала ў палон.*

*Ты каханнем сваім акрыліла*
*І пяшчоту навек зберагла,*
*Абагрэла, сабой атуліла*
*Ад распусты, ад фальшу, ад зла.*

*І твае міласэрныя вочы*
*Мне здаваліся ўсё даражэй.*
*Іх святло і апоўдні, і ўночы —*
*Трапятала ярчэй і бліжэй.*

*Дык чаму ж мы з табою не разам?*
*Лёс ці вырак, што мы па адным?*
*Не знайшоў я дагэтуль адказу,*
*…А каханне сышло, нібы дым.*

* * *

*Вось ужо і пяцьдзясят!..*
*Хто я ёсць, чаго яварты?*
*Пэўна, сціплы, крыху ўпарты,*
*Шчэ шаную добры жарты,*
*Неблагі мой кругагляд.*

*Штосьці зведаў, штось прайшоў,*
*Мог бы больш, ды ўсё не здолеў…*
*Спасцігаў, кахаў, сваволіў*
*І паводле Боскай волі*
*Ласку між людзей знайшоў!*

*Час бяжыць, і сумна мне,*
*Людзі, справы — ўсё праходзіць…*
*Ды ў спрадвечным карагодзе,*
*Хай насуперак прыродзе,*
*Зло і немач нас міне!*

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

Кніжны свет

6 студзеня 2011 г.

# Новыя праекты і сюрпрызы для чытачоў

Марына ВЕСЯЛУХА

**Завяршыўся 2010 год. Якім ён стаў для выдавецтваў краіны? Якія кніжныя праекты можна лічыць значнымі? Чым парадуюць выдавецтвы чытачоў у новым годзе?
На гэтыя і іншыя пытанні адказвае Алена Паўлава, начальнік упраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**

**— Алена Савельеўна, чым 2010 год стаў значным для выдавецтваў краіны?**

— Мінулы год быў досыць напружаным для выдаўцоў, паліграфістаў і кнігараспаўсюджвальнікаў, але радуе той факт, што колькасць суб'ектаў выдавецкай дзейнасці не змяншаецца, значыць цікавасць да кнігавыдання па-ранейшаму высокая. Так, на 1 студзеня 2011 года Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь зарэгістравана 837 суб'ектаў гаспадарання (на 01.01.2010 — 804). Вядома ж, не ўсе структуры аднолькава актыўна ўдзельнічаюць у кнігавыдавецкім бізнесе, лік актыўна дзеючых прадпрыемстваў, якія фарміруюць выдавецкую сістэму Беларусі, — крыху большы за сотню.

Паводле папярэдніх дадзеных, у 2010 годзе колькасныя паказчыкі выпуску літаратуры (колькасць назваў і агульны тыраж) будуць ніжэй, чым паказчыкі папярэдняга года. Гэта абумоўлена не толькі крызіснымі з'явамі, якія адбіліся і на кнігавыдавецкай дзейнасці, але і падзеннем цікавасці да чытання ў цэлым. Так, за 9 месяцаў 2010 года было выдадзена 8 069 кніг і брашур агульным тыражом 31,5 млн. асобнікаў. У параўнанні з адпаведным перыядам 2009 года колькасць назваў зменшылася амаль на 19 працэнтаў, тыраж — на 21 працэнт. Па стане на снежань мінулага года колькасць выпушчаных назваў — 10 774, сумарны тыраж 42 млн. асобнікаў (у 2009 г. — 12 885 найменняў і 52,8 млн. асобнікаў). Самымі запатрабаванымі па-ранейшаму застаюцца вучэбныя і літаратурна-мастацкія выданні, а таксама навукова-папулярная і даведачная літаратура.

**— Якія праекты мінулага года можаце адзначыць як самыя яркія ў айчынным кнігавыданні?**

— Перш за ўсё хочацца адзначыць энцыклапедычныя выданні. У выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" працягваўся выпуск энцыклапедый "Гарады і вёскі Беларусі", распачатых у 2009 годзе кніжных праектаў "Рэгіёны Беларусі", "Прырода Беларусі", "Энцыклапедыя для студэнтаў і школьнікаў", ажыццёўлены выпуск першага тома новага выдання "Культура Беларусі". Чарговыя тамы гэтых энцыклапедый пабачаць свет у 2011 годзе. Завяршэннем выпушчанага раней двухтомнага выдання стаў трэці том энцыклапедыі "Вялікае Княства Літоўскае". Удалымі падаюцца і іншыя выдавецкія праекты "БелЭн", якія распачаліся ў 2010 годзе. Гэта серыя "Энцыклапедыя рарытэтаў", пачаткам якой стаў альбом "Радзівілы. Альбом партрэтаў XVIII — XIX стагоддзяў". Серыю "Современное белорусское искусство" адкрыў альбом "Современная белорусская живопись. XXI век". Безумоўна, поспехам можна лічыць кнігу "Беларускае замежжа", укладальнікам якой выступіла вядомы гісторык і аўтар многіх папулярных сярод чытачоў кніг Наталля Голубева.

Творчым поспехам выдавецтва "Беларусь" можна назваць багата ілюстраваны трохтомнік Б. Лазукі "Гісторыя сусветнага мастацтва", першыя дзве кнігі якога пабачылі свет у 2010 годзе, а таксама кнігу Юрыя Бохана "Ваяры Грунвальдскай бітвы".

На працягу года дзяржаўныя выдавецтвы працягвалі выпуск збораў твораў класікаў беларускай літаратуры — Максіма Танка і Якуба Коласа, выпушчаны першыя тамы збору твораў Івана Шамякіна (у 23 тамах). У 2011 годзе распачнецца выпуск збору твораў Івана Навуменкі (у 10 тамах).

Выдавецтва "Мастацкая літаратура" працягвае выпуск літаратурна-мастацкіх твораў беларускіх аўтараў у серыях "Беларуская паэзія XX (XXI) стагоддзя", "Проза XX (XXI) стагоддзя", "Залатое пяро", "Вера. Надзея. Любоў", "Гісторыя ў асобах", "Беларусь літаратурная", дзіцячых кніг у серыях "Скарбы роднай прыроды", "Казачны свет", "Казка за казкай". 65-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне прысвечана падарункавае перавыданне знаёмай з дзяцінства кнігі "Никогда не забудем".

Творчым поспехам РВУ "Літаратура і Мастацтва" можна смела лічыць кнігу паэзіі "Сад на шляпке возлюбленной" Раісы Баравіковай, альбомы "Плакаты Великой Отечественной войны", "Слуцкая палитра", кнігу Армэна Сардарава і Адама Мальдзіса "Даўняя Беларусь: З настальгіяй аб мінулым". У 2010 годзе мы адзначалі 80-годдзе Уладзіміра Караткевіча, таму значным падаецца выхад у РВУ зборніка "Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы", а таксама перавыданне кнігі Адама Мальдзіса "Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча".

Радуюць выдавецтвы і новымі дзіцячымі кнігамі. Сярод іх — "Казачныя аповесці пра міжпланетнага Пажарніка і іншых мамурыкаў" Раісы Баравіковай, "Першая прыгажуня" Алены Масла, зборнік "Сказки детей Беларуси" (РВУ "Літаратура і Мастацтва").

**— Мінулы год быў дастаткова актыўным з пункта гледжання ўдзелу ў міжнародных кніжных выстаўках…**

— Сапраўды, прадпрыемствы галіны прынялі ўдзел у многіх міжнародных кніжных выстаўках (Масква, Вільнюс, Санкт-Пецярбург, Кіеў, Варшава, Франкфурт-на-Майне), дзе на калектыўнай экспазіцыі прадстаўлялі нацыянальнае кнігавыданне. Асабліва хочацца адзначыць удзел Беларусі ў XXIII Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы ў якасці Ганаровага госця. Больш як чатыры дзясяткі вядучых выдавецтваў, паліграфічных прадпрыемстваў прадставілі звыш тысячы лепшых узораў прадукцыі ў межах экспазіцыі Рэспублікі Беларусь. У 2011 годзе Беларусь запрошана выступіць Ганаровым госцем на Варшаўскай міжнароднай кніжнай выстаўцы.



Фота Кастуся Дробава

**— Зацверджаны выдавецкія планы на 2011 год…**

— Адметнай асаблівасцю фарміравання плана выпуску сацыяльна значнай літаратуры сёлета стала стварэнне Экспертнага савета, у склад якога апроч спецыялістаў Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь увайшлі прадстаўнікі Міністэрства культуры Беларусі, Міністэрства адукацыі краіны, Саюза пісьменнікаў Беларусі, супрацоўнікі бібліятэк. Савет створаны з мэтай забеспячэння аб'ектыўнага падыходу пры адборы выданняў для ўключэння ў план, выпуску запатрабаваных бібліятэкамі і кнігагандлёвымі арганізацыямі кніг, больш рацыянальнага выкарыстання бюджэтных сродкаў, якія выдзяляюцца дзяржавай на падтрымку нацыянальнага кнігавыдання. Прыярытэты ў плане выпуску сацыяльна значнай літаратуры на 2011 год аддадзены, як і раней, энцыклапедычным выданням, якія працягваюцца, літаратурна-мастацкім творам беларускіх аўтараў і, вядома ж, дзіцячым кнігам. Працягнецца выпуск кніг серыі "Школьная бібліятэка" для вучняў агульнаадукацыйных школ і дзяцей-інвалідаў па зроку (шрыфтам Брайля). Гэтыя кнігі цалкам фінансуюцца дзяржавай. Дзяржава па-ранейшаму аказвае дапамогу выдавецтвам у выглядзе выдзялення субсідый з мэтай зніжэння кошту кнігі. 115 кніг, якія ўвайшлі ў фінансуемы дзяржзаказ, стануць больш даступнымі для спажыўцоў.

Выдавецтвам "БелЭн" плануецца працяг серый "Энцыклапедыя рарытэтаў" і "Современное белорусское искусство". Выдавецтва "Мастацкая літаратура" распачне выпуск новай серыі "Залатая калекцыя беларускай літаратуры" (у 50 тамах). Пяць першых тамоў, прысвечаных літаратуры XI — пачатку XX стст., пабачаць свет у 2011 годзе. Гэтыя і многія іншыя выдавецкія праекты будуць радаваць чытачоў на працягу ўсяго года.

**— У 2010 годзе пабачыла свет шмат кніг, прысвечаных значным датам. Якія юбілеі творцаў стануць і выдавецкімі падзеямі гэтага года?**

— 2011 год будзе адзначаны святкаваннем 120-годдзя Максіма Багдановіча. Рыхтуюцца да выпуску энцыклапедыя "Максім Багдановіч", факсімільнае выданне кнігі вершаў "Вянок", кніга "Пясняр чыстае красы" серыі "Жыццё знакамітых людзей Беларусі", прысвечаная жыццю і творчасці М. Багдановіча. Працягнецца (а ў 2012 годзе будзе завершаны) выпуск збору твораў Я. Коласа (у 20 тамах). 130-годдзю народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа, якое мы будзем адзначаць у 2012 годзе, прысвечана і кніга-альбом А. Клешчука "Мне сняцца сны аб Беларусі", што рыхтуецца да выпуску.

# Сто шэсцьдзесят першы аўтограф



Фота Кастуся Дробава

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

Толькі ў Чырвоным касцёле падчас прэзентацыі кнігі польскага пісьменніка Рышарда Курыльчыка "Нязломны з Назарэта" ў перакладзе Анатоля Бутэвіча аўтару і перакладчыку давялося пакінуць свае аўтографы на 160 асобніках. За тры дні на мінскіх прэзентацыях пабывала паўтары тысячы чалавек. Рышард Курыльчык быў прыемна здзіўлены. Анатоль Бутэвіч заклікаў даваць і беларускім пісьменнікам для сустрэч з чытачамі стадыёны, філармоніі і чытальныя залы. Тады і пісьменнік будзе пачуты, і кніжка будзе запатрабавана.

Не адмовіў Рышард Курыльчык у аўтографе і нашаму выданню.

— *Пан Рышард, як звычайна праводзіце Новы год і іншыя святы?*

— Паводле роду дзейнасці (інжынер, які будуе атамныя электрастанцыі. — **В. П.**) працую за мяжой, але ў святы абавязкова з сям'ёй. Стараюся быць дома, каб унукаў бачыць не радзей чым раз на два тыдні.

— *Ці часты вы госць у Беларусі?*

— Так, наша прадпрыемства супрацоўнічае з беларускімі калегамі. Да таго ж, мае кнігі з'явіліся на беларускім рынку, ладзяцца сустрэчы з чытачамі, моладдзю і дарослымі. Беларусь мне вельмі падабаецца — я тут нарадзіўся, у вёсцы Дзедзіна на Міёршчыне. І ва ўсім свеце — а мне шмат дзе давялося пабываць — такой юшкі, як на Браслаўшчыне, няма.

У вёсцы радні не засталося, але, думаю, з аднавяскоўцаў сяго-таго мог бы пазнаць, каб сустрэў. На прэзентацыі ў Чырвоным касцёле падышла да мяне настаўніца з Міёраў і запрасіла прыехаць у школьны гістарычны музей. Абавязкова гэта запланую.

— *Раскажыце пра кнігі, якія запомніліся з дзяцінства.*

— Мая маці была настаўніцай гісторыі. Чытаць і пісаць я вучыўся на гістарычных кнігах. А сам чытаю штотыдзень не менш як 15 выданняў, самы любімы аўтар, зразумела, быў Сянкевіч, усе палякі пачыналі вучыцца гісторыі з яго раманаў.

— *Ці доўга працавалі над кнігай, якую прадставілі мінчанам?*

— Ствараў "Нязломнага з Назарэта" каля дваццаці гадоў — пятнаццаць з іх збіраў і вывучаў матэрыял. Дакладна ведаю, якое ў той час было надвор'е ў Назарэце, што елі людзі, чым цікавіліся. Як аўтару гістарычных кніг мне на рэцэнзаванне прыходзяць кандыдацкія дысертацыі, навуковыя работы з многіх універсітэтаў свету.

— *Што чытаеце сёння?*

— Чытаю кнігі англійскага гісторыка Хільды Дэвідсан пра старажытныя княствы, ад якіх засталіся толькі згадкі. Для мяне гэта як гістарычны дэтэктыў. Не ведаю, ці выдаваліся яе кнігі на іншых мовах, — я чытаю ў арыгінале.

— *А на якіх яшчэ мовах вы можаце чытаць?*

— На польскай, рускай, англійскай, нямецкай. Дадайце яшчэ грэчаскую і лацінскую.

***На здымку: Рышард Курыльчык — чытачам "Кніжнага свету": "Самыя сардэчныя пажаданні ўсёй рэдакцыі і чытачам газеты ў газеце "Кніжны свет" з нагоды Новага 2011 года!"***

*Маладзічок*

# Якой павінна быць дзіцячая кніга?


Фота з асабістага архіва Маргарыты Аляшкевіч

**Версія літаратурнага крытыка, выкладчыка Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Маргарыты АЛЯШКЕВІЧ.**

### Цікавай

Цяжка вытлумачальная катэгорыя, бо суб'ектыўная. Камусьці Кафка — страшэнна цікавы аўтар, а іншаму дык нуда з нуды. Калі спрабаваць вывесці ўніверсальнае азначэнне цікавасці, дык атрымаецца вось што: цікавай будзе тая кніга, якая дае мне нешта карыснае — важныя для мяне веды, перажыванне, якое я хачу перажыць, псіхалагічны стан, якога мне бракуе, нейкія камунікатыўныя ці сацыяльныя выгоды (ну так, з адной маёй сяброўкай у дзяцінстве мы дзялілі прыемнае адчуванне, калі бралі ў бібліятэцы таўшчэзныя таміны, пад позіркамі ўсяе чытальнае залы! Глядзіце ўсе, якія мы разумныя! Пазней таўшчыню кнігі змяніла ейная вартасць — чым меней чытэльнымі здаваліся "Хаўтуры па Фінігану", тым болей гонару ад чытання і г.д.). Маленькі чытач — самы шчыры. Яго не падмануць абяцанкамі, нібыта кніга, якую яму падсоўваюць клапатлівыя бацькі, — шэдэўр сусветнай літаратуры. Ну і што, падумаеш. А чытаць мо й не цікава. Што можа быць важна маленькаму чалавеку? На гэта даюць адказы найлепшыя казачнікі свету.

### Своечасовай

Як вопратку трэба браць, збольшага, свайго памеру, так і кнігі трэба падбіраць пад узрост. Хаця тут і магчымыя эксперыменты для дасягнення пэўных эфектаў, як у вопратцы, так і ў чытанні, майце на ўвазе, што завялікую эксцэнтрычную вопратку можна пасля карнавалу скінуць, а вось зарана прачытаная кніга можа назаўжды адбіцца на псіхіцы. Напрыклад, я занадта рана "аб'елася" Дастаеўскага і занадта позна пачала Набокава. Але гэта, скажаце, тонкасці, кветачкі, а як наконт ягадак — ці трэба абараняць дзяцей ад гвалту, сексу ды іншых акалічнасцей жорсткага дарослага жыцця? Ці трэба ранжыраваць кнігі, як кіно, рознай колькасцю зорачак?

У Швецыі, слаўнай сваёй дзіцячай літаратурай, кнігі для малых падзелены на некалькі ўзроставых груп. Але нават самых малекул прывучаюць да таго, што ў жыцці ёсць смерць і несправядлівасць. Возьмем найбольш вядомыя прыклады — Піпі Доўгаяпанчоха жыве без бацькоў, бо абое памерлі, а Малы не мае сяброў, апроч аднаго вельмі сумніўнага суб'екта.

Існуе яшчэ праблема ўзроўняў прачытання, якая ўскладняе бацькам жыццё. Скажам, можна прачытаць "Майстра і Маргарыту" і ў чатыры гады – як гісторыю пра суперскага кацяру Бегемота. А можна, знудзіўшыся гадоў у дзесяць над "Дон Кіхотам", назаўжды адкласці гэты геніяльны твор.

### Яркай

Пра гэта, бадай што, усе ведаюць. Чым на меншы ўзрост разлічана кніжка, тым болей у ёй малюнкаў і тым яны ярчэйшыя. Ёсць, канечне, небяспека перасаліць — але ад залішняй "пярэстасці" дзіцячыя кніжкі ратуе добры густ афарміцеляў. У нас сапраўды шмат добрых мастакоў, якія ілюструюць дзіцячыя выданні: Тамара Шэлест, Павел Татарнікаў, Уладзімір Лукашык, Валерый Славук ды іншыя. У дзяцінстве мы ўспрымаем кнігу цалкам, не адасабляючы форму ад зместу, таму — раскашэльвайцеся, бацькі, пэйпербэк (мяккая папяровая вокладка) не падыйдзе. І так дзяржаве падзякуйце — дзіцячыя кніжкі, наколькі мне вядома, прадаюцца танней за сабекошт.

### Беларускамоўнай

Дзяцінства гатовае ўсё паспытаць і паспрабаваць, яно яшчэ не баіцца незразумелых літарак і словаў і не мае шаблонаў успрымання. Таму вельмі важна паказаць дзіцёнку беларускамоўную кнігу — хай ён хоць адну палюбіць, пакуль малы. Тады, як вырасце, будзе памятаць свой добры досвед стасункаў з гэтай моваю — нібы прышчэпка, яна дасць яму антыцелы ад забыцця нацыянальнай годнасці. У нашых рускамоўных сем'ях, дзе не гучыць беларуская калыханка, а з тэлебачання зрэдку дачуешся беларускага слоўца, і тое будзе з цвёрдым "с" у слове "снег", гэта вельмі важна. Унь Максім Багдановіч наслухаўся ў дзяцінстве беларускай мовы, дык яна хлопца з іншай краіны да сябе прыцягнула, прыгарнула.

Што ж да таго, ці павінна дзіцячая кніга быць беларускай — то бок, напісанай нашымі аўтарамі на нашым жа матэрыяле, дык, на мой одум, не абавязкова. Мне й маім пляменнікам вельмі даспадобы беларускія пераклады сусветнай літаратуры, і добра, што іх апошнім часам большае. І Доўгуюпанчоху пераклалі, і Карлсана, і вось да маленькіх мумітроляў Тувэ Янсан дабраліся. Але калі вы хочаце быць пурыстамі-нацыяналістамі, дык калі ласачка — купляйце "Чароўны свет", дзе сабраны найбольш папулярныя казачныя персанажы і вобразы беларускай міфалогіі, якія захаваліся ў народзе да нашых дзён. Ці вазьміце Чырвоную кнігу ды Блакітную кнігу ў казках і вершах — першая распавядзе пра расліны і кветкі, жывёл і птушак, якіх у нас засталося так мала, што іх трэба берагчы, каб яны канчаткова не зніклі, другая пакажа нашы рэкі, азёры і іх жыхароў. Гісторыі напісаны захапляльна, і чалавечак вучыцца, як важна берагчы нават дробную кузурку.

### Міласэрнай, спачувальнай, мудрай

Апроч таго, што кнігай мы спрабуем заняць дзіцё, каб не лезла пальчыкам у разетку, мы ж хочам яшчэ, каб кніжка дапамагла малечы стаць добрым чалавекам. Таму важна, каб дзіцёнак навучыўся спачуваць чарнабураму лісу, на якога зладзілі паляванне, навучыўся несці адказнасць за маленькую планету, якую можа разарваць каранямі баабаб, калі яго ў час не выпалаць. Як бы нам ні абрыдла слова "павучанне", як бы ні дыскрэдытавалі яго бясконцыя вавёрачкі і зайчыкі колішняй квазілітаратуры, кніга павінна быць дыдактычнай — акурат у гэтым сэнсе развіцця эмоцый і закладання асноў чалавечнага ў нашым маленькім чалавеку.

А добрую дзіцячую кніжку і дарослы з задавальненнем перачытае. (Ці ж назавеш кэралаўскіх Аліс дзіцячай літаратурай?)

*Азбука Морзэ*

Чэслава ПАЛУЯН

● Прэзентацыя кнігі Аляксандра Авяр'янава "Мой счастливый билет" прайшла ў кнігарні "Кнігі ў кніжачкі". Характарызуючы творчасць гэтага аўтара, міністр культуры Беларусі Павел Латушка падкрэсліў: "Чалавек, які спалучаў у сабе талент дыпламата, сціпласць і патрабавальнасць, уменне разумець і адчуваць людзей, рамантыку душы, раскрыўся для шырокай публікі як аўтар вершаў, музыка і выканаўца сваіх твораў. Яго вершы і песні запамінаюцца, бо выражаюць пачуцці, якія перажывае кожны з нас". Цёплыя словы аўтару казалі людзі, якія даўно ведаюць Аляксандра Авяр'янава па службе, і сябры. Гучалі вершы і песні ў выкананні аўтара і гітарыста Аляксандра Церахава. Кнігу А. Авяр'янава "Мой счастливый билет" можна набыць у кнігарнях ААТ "Белкніга".

— У цэнтральнай раённай бібліятэцы Быхава прайшла прэзентацыя кнігі нарысаў заслужанага журналіста Беларускага Саюза журналістаў, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Леўчанкі "Непраходзячы боль". Асаблівасць выдання ў тым, што на яго старонках прасочваецца лёс дзяцей, падлеткаў, якія падчас нямецкай акупацыі трапілі ў палон ці былі вывезены ў Германію на прымусовыя работы, пакутавалі ў канцлагерах, турмах, перанеслі цяжкія выпрабаванні. Падчас прэзентацыі была арганізавана выстаўка "У росквіце творчых сіл", на якой прадстаўлены іншыя творы М. Леўчанкі.

● У выдавецтве "Беларусь" пабачыў свет першы том кнігі "Гісторыя сусветнага мастацтва". Выданне вядомага беларускага вучонага, прадстаўніка сучаснага класічнага мастацтвазнаўства Б. А. Лазукі прысвечана гісторыі сусветнага мастацтва з першабытных часоў да эпохі Адраджэння. Гэтае навукова-папулярнае выданне багата ілюстравана і разлічана на мастацтвазнаўцаў, гісторыкаў, студэнтаў, усіх, хто цікавіцца гісторыяй сусветнага мастацтва.

— Сталі вядомымі імёны лаўрэатаў першай расійскай літаратурнай прэміі ў галіне электронных кніг "Электронная буква". Пераможцам у намінацыі "Бестселер года" стаў раман "Маневры неудачников", напісаны Раманам Злотнікавым і Сяргеем Мусаніф. 2010 год быў вельмі паспяховым для Рамана Злотнікава, які стаў пераможцам таксама ў намінацыях "Самы папулярны аўтар Рунэта", "Самая папулярная фантастычная кніга". Прэмію ў намінацыі "Адкрыццё года" атрымаў Антон Грановскі. Самым прадаваемым дэтэктывам стаў твор Таццяны Усцінавай "На одном дыхании!", у намінацыі "Самая хвалюючая гісторыя кахання" пераможцам стаў раман "Затмение" Стэфані Маер, "Бізнес-кнігай года" быў названы аўтабіяграфічны раман прадпрымальніка Алега Цінькова "Я такой как все", самай прадаваемай серыяй назвалі цыкл твораў Вадзіма Панова "Тайный город", "Ад" Аляксандры Марынінай стаў лепшым празаічным творам 2010 года. У намінацыі "Аўдыёкніга года" самыя высокія продажы ў дзіцячага зборніка "Сказки для девочек". "Рипол Классик" названа "Выдавецтвам года", самым аб'ектыўным СМІ— інтэрнэт-праект The-ebook.org. "Рыдарам года" журы назвала Sony PRS-650 Touch Edition.

*Прэзентацыя*

# Вяртанне слуцкай святыні

**У рамках праекта "Вяртанне святынь" у канферэнц-зале Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбылася ўрачыстая цырымонія перадачы факсімільнага выдання Слуцкага Евангелля ў дар галоўнай бібліятэцы краіны.**

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Лёс Слуцкага Евангелля — унікальнага беларускага рукапіснага помніка канца XVI ст. — па-свойму сімвалічны. Ён надзіва дакладна адлюстроўвае стаўленне да нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны: ад ігнаравання і забыцця ў перыяд СССР да паступовага адраджэння інтарэсу ў часы незалежнасці.

Верагодным аўтарам рукапісу, створанага ў Слуцку ў 1581 годзе, лічыцца слуцкі князь Юрый з роду Алелькавічаў. Да рэвалюцыі 1917 г. Евангелле захоўвалася ў Свята-Троіцкім мужчынскім манастыры, але часам станавілася даступным шараговым аматарам даўніны (напрыклад, выстаўлялася на Маскоўскай археалагічнай выставе). Пасля рэвалюцыі Слуцкае Евангелле трапіла ў Мінскі дзяржаўны музей, а ў 1929 г. было перададзена на захаванне ў Беларускі дзяржаўны музей у Магілёве. Там яно разам з шэрагам экспанатаў (у тым ліку і крыжом Еўфрасінні Полацкай) сустрэла Вялікую Айчынную вайну і было страчана.

Знайшлося Евангелле ў 2003 годзе досыць нечакана. Адна з мінчанак перадала святару асобнік помніка, які захоўваўся ў яе дома як сямейная рэліквія. Бацюшка прынёс яго ў Беларускі Экзархат. А неўзабаве, падчас правядзення X Мінскіх Епархіяльных чытанняў, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, прадставіў знаходку шырокаму колу ўдзельнікаў канферэнцыі.

Неабходнасць знаёмства шырокай аўдыторыі са Слуцкім Евангеллем відавочная. Першым крокам стала стварэнне электроннай версіі рукапісу, якое ажыццявілі па благаслаўленні Уладыкі Філарэта Нацыянальная бібліятэка Беларусі ў супрацоўніцтве з Інстытутам мовы імя Я. Коласа НАН Беларусі. У 2008 годзе з'явіўся CD-дыск "Слуцкае Евангелле — беларускі рукапіс XVI ст.".

У наступным годзе пры фінансавай падтрымцы дзяржавы факсімільнае выданне Слуцкага Евангелля выйшла ў Выдавецтве Беларускага Экзархата. Як мяркуюць спецыялісты, кніга ўяўляе практычна дакладную копію рукапіснага помніка, і па ўзроўні выканання выданне не мае аналагаў у Беларусі. Заўважым, што ў выдавецкай справе гэта быў не першы прыклад такога кшталту. Так, яшчэ ў 2001 годзе ў выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя" выйшла Друцкае Евангелле.

Прыемна, што мерапрыемства ў Нацыянальнай бібліятэцы не ператварылася ў сухі аповед пра выданне Евангелля. Гасцей прэзентацыі чакалі фільм пра рэспубліканскую духоўна-асветніцкую праграму "Сям'я — Яднанне — Айчына", музычна-тэатралізаванае прадстаўленне-дэманстрацыя Слуцкага Евангелля ў выкананні Камернага духоўнага тэатра Цэнтра праваслаўнай культуры "Спадарожнік хрысціяніна" і выступленне вядомага вакальнага мужчынскага ансамбля "Благовест" Выдавецтва Беларускага Экзархата.

Уладальнікамі каштоўнага выдання стануць таксама іншыя бібліятэкі краіны. А чытачы "ЛіМа" неўзабаве змогуць убачыць Слуцкае Евангелле ў Музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі, дзе яно будзе дэманстравацца з 28 лютага па 15 сакавіка 2011 года.

# Аркестр і яго імёны

**Нацыянальнаму акадэмічнаму народнаму аркестру Рэспублікі Беларусь імя Іосіфа Жыновіча ўжо восемдзесят. Што ў гэтай лічбе? Некалькі пакаленняў адметных выканаўцаў, іх слухачоў і прыхільнікаў. Доўгае і годнае творчае жыццё аднаго з нашых найстарэйшых і вядучых музычных калектываў.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота Уладзіміра Сіза і Андрэя Спрынчана**



Кожны творчы арганізм, дзейнасць якога працягваецца не адно дзесяцігоддзе, выбірае свой рэцэпт даўгалецця. Выбар, між тым, не багаты: альбо з энтузіязмам неафіта азірацца па баках, намагаючыся пераймаць павевы часу, мяняцца разам з імі, прыраўноўваючыся да "модных"; альбо з пурытанскай прынцыповасцю "бальзамаваць" традыцыі ды густы сваіх пачынальнікаў, унікаючы свежага павета; альбо з парадаксальнай пераборлівасцю інтэлігента, для якога існуе толькі мода на вечнае, браць пад увагу... прагрэсіўна-кансерватыўную культуру англійскага газона. Памятаеце, у чым сакрэт унікальнасці гэтага феномена? У тым, што ўзорная выкшталцонасць жывога зялёнага дывана дасягаецца не рэгулярнай перасадкай, не заменай травянога пакрыва, а карпатлівай, штодзённай — на працягу стагоддзяў! — культывацыяй. Доглядам. Беражлівым, далікатным: камфортным і для новых парасткаў, і для каранёў...

Дык вось, задумаўшыся пра тое, на чым жа грунтуецца творчае даўгалецце і сённяшні росквіт адзінага ў свеце акадэмічнага аркестра беларускіх народных інструментаў, я параўноўваю мудрасць яго існавання і развіцця менавіта з культурай англійскага газона. Сапраўдныя беларускія арыстакраты духу, спасцігаючы прыроду самабытнай народна-інструментальнай музыкі, знаходзілі тую невытлумачальную канстанту, якая падтрымлівала і падтрымлівае самаабнаўленне аркестра ў межах яго асноватворных традыцый.

Зразумела, не ў наборы пэўных інструментаў выяўляюцца вытокі аркестра. Яго аснова і працяг — людзі. Асобы. Імёны. Вялікі мастацкі калектыў вядзе свой радавод ад самабытнага ансамбля, заснаванага ў 1928 годзе мінскім музыкантам-мультыінструменталістам, дырыжорам, кампазітарам і рэжысёрам Дзмітрыем Захарам. З 1930-га ансамбль набыў статус дзяржаўнага калектыву, а Дзмітрый Андрэевіч на працягу яшчэ пяці гадоў заставаўся яго мастацкім кіраўніком і дырыжорам, працуючы не толькі над стварэннем рэпертуару для ўнікальнага маладога аркестра, але і над удасканаленнем канструкцыі некаторых інструментаў. Неад'емная ад гісторыі заснавання, станаўлення і развіцця "музычнай візітоўкі Беларусі" асоба Іосіфа Жыновіча. У 1946-м ён узначаліў калектыў і заставаўся мастацкім кіраўніком без малога тры дзесяцігоддзі — да апошніх сваіх дзён. Таму 100-годдзе з дня нараджэння Іосіфа Іосіфавіча (1907 — 2007) сталася нагодай для размовы на старонках "ЛіМа" і пра легендарны аркестр, у назве якога ўвекапомнена знакавае для айчыннай культуры імя народнага артыста СССР, прафесара, стваральніка беларускай школы цымбальнага выканальніцтва.

У біяграфіі аркестра — творчыя дасягненні знакамітых калісьці салістаў-віртуозаў, аранжыроўшчыкаў, дырыжораў, сярод якіх Х. Шмелькін, С. Навіцкі, В. Бурковіч, К. Сімяонаў... А колькі яркіх імёнаў на яго сённяшніх афішах! Святлана Лясун, Ларыса Рыдлеўская, Уладзімір Ткач, Аляксандр Крамко... 22 лаўрэаты нацыянальных і міжнародных конкурсаў, заслужаныя і народныя артысты Беларусі працуюць тут.

*„Перад пачаткам святочнага канцэрта ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі да жыновічаўцаў звярнуўся міністр культуры Беларусі Павел Латушка. Ён падкрэсліў, што юбілей аркестра — падзея не толькі для саміх музыкантаў, але і для ўсёй краіны, бо творчасць выдатнага калектыву належыць да нацыянальнага скарбу, да нашай духоўнай культуры. Міністр таксама зачытаў тэкст віншавання, якое на адрас Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча накіраваў Прэзідэнт дзяржавы Аляксандр Лукашэнка.*

З 1975 года на чале калектыву — Міхась Казінец: сам Іосіф Жыновіч апекаваўся ўваходзінамі маладога музыканта аркестра ў дырыжорскую прафесію і абраў яго сваім пераемнікам. Калектыў, гісторыя якога звязана з адраджэннем не толькі цымбалаў, але і ліры, жалейкі, дуды, акарыны ды іншых беларускіх народных інструментаў, сёння вызначаецца багаццем тэмбравай палітры, тонкасцю нюансіроўкі, збалансаванасцю гучання. І — разнастайнасцю рэпертуару, у якім назапашана больш як дзве тысячы партытур. Гэта апрацоўкі беларускіх народных песень і танцаў, арыгінальныя творы айчынных кампазітараў, сусветная класіка і папулярная музыка розных народаў. Імёны ці не ўсіх беларускіх кампазітараў розных пакаленняў прадстаўлены ў нотнай бібліятэцы жыновічаўцаў. Сучасныя айчынныя аўтары з прыемнасцю адгукаюцца на творчыя прапановы М. Казінца, і маэстра часта песціць сваю публіку прэм'ерамі.

Феерверкам прэм'ер мастацкі кіраўнік аркестра расквеціў і святочны снежаньскі канцэрт, прымеркаваны да 80-годдзя калектыву. Ажыятаж, аншлаг, авацыі! А потым... Аркуш. Віртуальны чысты аркуш і пакуты над ім, бо трох праўдзівых і трапных слоў — ажыятаж, аншлаг, авацыі — недастаткова, каб распавесці пра падзею таго філарманічнага вечара. Бо сутнасць музыкі не мае слоўнага адпаведніка і перадаецца выключна праз музыку...

*„Не пералічыць канцэртаў, праведзеных жыновічаўцамі ў Беларусі, па ўсім колішнім СССР, па гарадах Германіі, Індыі, Канады, Кітая, Польшчы, Румыніі, Турцыі. З аркестрам спявалі знакамітыя салісты З. Бабій, А. Вядзернікаў, С. Данілюк, Б. Міլжынкіеў, В. Нарэйка, Т. Ніжнікава, А. Салаўяненка, З. Саткілава, Б. Штокалаў, А. Эйзен...*

Толькі знаходзячыся ў зале, можна было адчуць, як, захаваўшы сябе, сваю непаўторную цымбальную аснову, змяніўся наш народны аркестр: у інструментальным голасе беларускай зямлі ўпэўнена загучалі самавітыя шляхетныя інтанацыі, традыцыя злучылася з крэатыўнымі знаходкамі, акадэмічнае майстэрства напоўнілася духам імправізацыйнасці. Колькі выканальніцкіх прыдумак і штрыхоў, эксперыментаў у спосабах гуказдабывання, свежых санорных эфектаў, артыстызму, элементаў тэатралізацыі! А як змяніліся змест і вобразнасць нашай нацыянальнай музыкі: замест колішніх немудрагелістых жанравых апрацовак фальклорных найгрышаў ды песенных мелодый — сюіта "З мінулага Нясвіжа" Г. Ермачэнкава; дасціпны музычны абразок У. Кур'яна паводле знакамітай песні І. Любана "Бывайце здаровы!" і яго ж, болем працятая, музычная прыпавесць "Курган" паводле аднайменнай Купалавай паэмы; феерычныя і рознахарактарныя "Малюнкі роднай старонкі" А. Крамко; мілагучная замалёўка Я. Магаліфа "Калібры"... І ў гэтых п'есах, і ў яскравых аранжыроўках твораў замежных кампазітараў уражліва раскрыліся індывідуальнасці маладых салістаў — лаўрэатаў міжнародных конкурсаў баяністаў Уладзіслава Плігаўкі, Паўла Неўмяржыцкага, цымбалістак Галіны Лазовік, Аксаны Хахол, ударніка Сяргея Шаптунова, флейтыста Вячаслава Помазава...

Ведаеце, чым унікальны Міхась Казінец сярод калег-дырыжораў? Не толькі цярпімасцю да чужога таленту. А і ўменнем захапіцца гэтым талентам, паспрыяць яго раскрыццю і самарэалізацыі. Поруч з маэстра плённа працуе сапраўдны профі — дырыжор Аляксандр Высоцкі. І — ззяе такі самародак, як Аляксандр Крамко: віртуоз-мультыінструменталіст, аранжыроўшчык і аўтар арыгінальнай музыкі, харызматычны дырыжор, майстар народных інструментаў.

Таленавітая натура, настроеная на самаўдасканаленне, адкрытая для творчага партнёрства, М. Казінец падтрымаў, здавалася б, неверагодную для народнага аркестра ідэю: увасобіць на філарманічнай сцэне паэму-легенду І. Лучанка — У. Мулявіна "Гусляр" паводле культавай паэмы Янкі Купалы "Курган". І гэтая прэм'ера адбылася ў другім аддзяленні юбілейнага канцэрта.

Намаганнямі аркестра на чале з Міхасём Казінцом; дзякуючы аўтару ідэі, выканаўчаму дырэктару праекта, музыказнаўцы Вользе Брылон; працы Аляксандра Крамко па рэканструкцыі і аркестроўцы партытуры; рэжысёрскай фантазіі Ларысы Сімаковіч, а таксама спеваку Пятру Ялфімаву (Гусляр), Яну Жанчаку (Князь), вакальнаму квартэту ў складзе Сяргея Мядзведзева, Паўла Хасанава, Уладзіслава Даніловіча, Сяргея Савіцкага, піяністу Канстанціну Гарачаму, Дзяржаўнаму камернаму хору Беларусі пад кіраўніцтвам Наталлі Міхайлавай, фальклор-тэатру "Госьціца" ды ўсім, хто спрычыніўся да праекта, атрымаўся яркі мастацкі вынік. І пра яго мы пагаворым у "ЛіМе" асобна.

Незвычайны спектакль "Гусляр", пастаўлены ў аркестры (!), зноў адбудзецца на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі 12 студзеня, у межах праграмы "Незабыўнае", якую жыновічаўцы разам са сваімі творчымі партнёрамі прысвячаюць 70-годдзю з дня нараджэння народнага артыста СССР Уладзіміра Мулявіна.



***На здымках: мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор аркестра, народны артыст Беларусі, лаўрэат прэміі "За духоўнае адраджэнне" прафесар Міхась Казінец; лаўрэат міжнародных конкурсаў Пётр Ялфімаў у вобразе Гусляра.***

## Слова краязнаўцы



**Дырэктар Лепельскага раённага краязнаўчага музея Аліна Стэльмах разважае пра тое, што краязнаўству варта падымацца з правінцыйнага ўзроўню:**

— Краязнаўства сёння развіваецца актыўна. З 2004 года ў нашым музеі рэгулярна праходзіць навукова-практычная канферэнцыя "Лепельскія чытанні" з удзелам супрацоўнікаў Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, выкладчыкаў універсітэтаў, супрацоўнікаў музеяў і архіваў.

Музеем выдаюцца брашуры. Пад адной вокладкай мы сабралі паданні Лепельшчыны. У 2009 годзе выйшла брашура "Бярэзінская водная сістэма". Дарэчы, Бярэзінская сістэма, на мой погляд, — самая ўнікальная з'ява на тэрыторыі раёна.

Лепельскі раён недасканала вывучаны археолагамі — раскопкі амаль не вяліся ў апошнія 20 гадоў. А сёння Лепельшчыну "капаюць" актыўна. Экспедыцыі ладзіць Інстытут гісторыі НАН Беларусі — у нас працавалі археолагі Андрэй Вайцяховіч, Павел Кенька, Зоя Харытановіч, Максім Чарняўскі, Марат Клімаў, Юрый Заяц. Актыўна працуе і ўдзельнічае ў раскопках мясцовы краязнаўца, настаўнік гісторыі Валерый Тухта.

Гісторыя раёна даследуецца і ў іншых кірунках. Напрыклад, дацэнт кафедры філасофіі гісторыі Беларускага дзяржаўнага аграрнага тэхнічнага ўніверсітэта Яўген Грэбень апошнім часам займаецца вывучэннем умоў жыцця грамадзянскага насельніцтва на Лепельшчыне падчас Вялікай Айчыннай вайны.

Адзінае, чаго б хацелася пазбавіцца ў гэтым актыўным развіцці, — правінцыйнасць. На мой погляд, праблема заключаецца ў тым, што навукоўцы-гісторыкі мала займаюцца практычнымі даследаваннямі — тэматыка іх навуковай працы абагуленая. А нашым краязнаўцам якраз не хапае навуковасці. Хочацца, каб краязнаўства нарэшце паднялося з местачковага ўзроўню на ўзровень абласны, рэспубліканскі і займела больш выразную навуковую аснову.

## Двум юбілеям прысвячаецца

Чэслава ПАЛУЯН

У Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі адкрылася выстаўка "Прысвячэнне заснавальніку" — да 90-годдзя Гродзенскага музея і 120-годдзя з дня нараджэння яго першага дырэктара Юзафа Ядкоўскага. Яна знаёміць з жыццём і творчай спадчынай заснавальніка, а таксама з дзейнасцю музея.

Прадстаўленыя на выставе прадметы паходзяць з самых першых збораў музея, многія з іх экспануюцца ўпершыню. Гэта дакументы XVI ст., падпісаныя каралём і вялікім князем Стэфанам Баторыем, магістрацкія кнігі Гродна XVIII ст. Вельмі цікавы прадмет — харугва цэху шаўцоў XVIII ст.

Асобная частка экспазіцыі прысвечана стварэнню музея. Тут можна ўбачыць музейныя пячаткі, фотаздымкі тагачаснай экспазіцыі, навуковыя і графічныя работы Юзафа Ядкоўскага.

## Музейны ўнікат

# Жэтон капітана Лукіна

*У Баранавіцкім краязнаўчым музеі захоўваецца надзвычай рэдкі экспанат, пазначаны чацвёртай катэгорыяй па шкале каштоўнасцей (вышэй толькі катэгорыя пятая — рарытэты). Гэта жэтон з марскога лінейнага карабля "Тры свяціцелі", які ўдзельнічаў у час Першай сусветнай вайны ў першым абстрэле рускімі караблямі 15 сакавіка 1915 года басфорскіх умацаванняў і якім камандаваў неардынарны чалавек, капітан I рангу Веніямін Лукін.*




Вольга ЖЫГАР

Капітан I рангу Лукін перад Першай сусветнай вайной узначальваў аператыўнае аддзяленне штаба Чарнаморскага флоту. Пасля абстрэлу батарэй Басфора прызначаны камандзірам порта Трапезунд. Неўзабаве становіцца контр-адміралам. Менавіта Лукін змяніў Калчака на пасадзе камандуючага Чарнаморскім флотам. Далейшы яго лёс звязаны з Чырвоным флотам.

У лютым 1915 года Англія сумесна з Францыяй зрабілі спробу авалодання Дарданеламі і Басфорам і звярнуліся да расійскага камандавання па падтрымку з боку Чарнаморскага флоту. Для гэтай аперацыі былі выдзелены марскія лінейныя караблі, крэйсеры, эскадраныя мінаносцы, мінныя загараджальнікі, тральшчыкі. У 10 гадзін 34 хвіліны 10 сакавіка караблі "Расціслаў" і "Тры свяціцелі" адкрылі агонь па фортах Эльмаз і Рыва, размешчаных на ўсходнім беразе Басфора. У гонар першага выстралу па Басфоры капітану I ранга В. К. Лукіну быў уручаны памятны знак № 2.

Як жа гэты памятны знак апынуўся ў Баранавічах? Вось што расказала старшы навуковы супрацоўнік Баранавіцкага краязнаўчага музея Ірына Сайко: "У нашым горадзе з канца 1940-х гадоў жыла дачка Веніяміна Лукіна Кацярына. Праз некалькі год пасля смерці Кацярыны Веніямінаўны адна з яе спадкаемніц прынесла памятны знак у ювелірную скупку, дзе ювелір параіў ёй аднесці ўнікальную рэч у музей. Так яна папоўніла музейныя фонды".

Пра ўнікальнасць гэтага музейнага прадмета сведчыць артыкул "Першы залп па Басфоры" з кнігі "Гісторыя расійскага флоту" А. Д. Байновіча і Ю. В. Сібірцава (Санкт-Пецярбург, 2009 г.). З дапамогай калекцыянераў С. Салагуба і А. Феакцістава аўтарам артыкула ўдалося атрыбутаваць усе элементы жэтона. Ён выкананы ў выглядзе славянскага шчыта перыяду кіеўскага князя Алега. Па контуры праходзіць абадок, прашыты шаснаццаццю заклёпкамі. У цэнтры жэтона — флюгарка, як мяркуюць, прысвоеная лінкору "Тры свяціцелі". Уніззе пад флюгаркай размешчана дата 1915, а зверху — літары ЦЗ, якія па стараславянскім стылі азначаюць дату 907 (Ц — гэта 900, а З — 7). У 907 годзе Вялікі кіеўскі князь Алег асадзіў Царград (Канстанцінональ — сталіцу Візантыі, сёння турэцкі Стамбул). Гэтымі дзвюма датамі падкрэсліваецца сувязь часоў. На адваротным баку жэтона выгравіраваны надпіс: "В. К. Лукинъ 19 15/III 1510 ч. 34 мин. Первый выстрелъ по Босфору произведенъ кор. "Три святителя" № 2".

Дзе знаходзяцца знакі з нумарамі 1, 3, 4 і г.д., даведацца не ўдалося. Невядома нават, колькі іх было выраблена. Тым большую цікавасць і каштоўнасць уяўляе той, што захоўваецца ў Баранавіцкім краязнаўчым музеі.

# Святкаванне Каляд: вытокі

*У канцы XIX — пачатку XX стагоддзя на тэрыторыі Беларусі з'явіўся звычай ставіць навагоднюю ялінку. Гэтая традыцыя прыйшла да нас з Германіі праз Польшчу. Чаму ялінку ўпрыгожвалі? Першапачаткова цацкі ўяўлялі сабой прыблізныя вобразы прызначаных для ахвярнага агню рытуальных цацак з гліны (культавых мадэляў зярнят, пладоў).*

Уладзімір ЯГОРЫЧАЎ

У вёсках у канцы XIX ст. зімовае свята, названае Калядамі, расцягвалася на 12 дзён (з вечара 24 снежня па 6 студзеня згодна са старым стылем або з 7 па 19 студзеня — паводле новага). Да свята ў беларускай вёсцы рыхтаваліся загадзя. Гаспадыня прыбірала ў хаце, а моладзь рабіла маскі. Рытуальную ежу — кашу з пшаніцы або ячменю — варылі раней за іншыя стравы і ставілі ў хаце на ганаровым месцы: "на куце". Адсюль і яе назва — куцця. Урачыста вячэралі на працягу Каляд тройчы: у першы дзень свята была посная куцця (кашу варылі з мёдам ці посным маслам), затым — багатая, шчодрая куцця, "шчадрэц" (кашу гатавалі з мясам і салам). І, нарэшце, перад Вадохрышчам зноў посная (галодная, вадзяная) куцця. Перш чым паставіць куццю на стол, клалі на яго сена, наверх засцілалі абрус. За рытуальным сталом сямейнікі пасля вячэры займаліся варажбой: стукалі па сене кулакамі, а затым выцягвалі па адной саломінцы і па яе даўжыні вызначалі, які будзе лён у новым годзе, а па колькасці выбітых зярнят — ураджай жыта. Агульная колькасць страў дасягала 7, 9, 12, бо лічылася, што багатая вячэра — пастаянны дастатак у доме на ўвесь год. На Каляды звычайна калядавалі — з выкананнем віншавальных песень, нярэдка з прадстаўленнем тэатралізаваных дзеяў (калядоўшчыкі пераапраналіся ў жывёл і персанажаў, сярод іх абавязкова былі Каза, Мядзведзь, Жуpавель або Бусел).

Беларуская народная традыцыя святкавання Каляд вытокамі ўзыходзіць да старажытнаславянскіх і нават індаеўрапейскіх язычніцкіх вераванняў. Старажытнаславянскі каляндар язычніцкіх маленняў вызначаўся найперш фазамі Сонца: зімовым сонцастаяннем — 24 снежня — 6 студзеня, веснавым раўнадзенствам (Масленіца — каля 24 — 25 сакавіка), летнім сонцастаяннем (Купала, "зялёныя" святкі — 23 — 29 чэрвеня). Навагоднія ігрышчы ў сваіх найстаражытнейшых вытоках уяўлялі сабой працяглы, 12-дзённы, заклінальны комплекс, у час якога падводзілі вынік мінулага года і рабілі заклёны на ўсе 12 месяцаў года наступнага. У многіх першапачатковых навагодніх ігрышчах узнаўляліся ў мініяцюры розныя абрады наступных месяцаў.

Свечкі і рознакаляровыя лямпачкі на ёлках — прыблізны "водбліск" старажытнага свяшчэннага агню. У канцы снежня ў час зімовага сонцастаяння славяне запальвалі свяшчэнны "жывы" агонь, які гарэў 12 дзён (шэсць дзён — у канцы старога года і шэсць — у пачатку новага). Ёлка з запаленымі свечкамі ці лямпачкамі — сімвал палаючага дрэва ў старажытным святым хатнім ачагу. Але чаму менавіта яліна? Старажытныя славяне ўстанаўлівалі ў ачагу смалістыя чурбаны хвойных дрэў, елкі ці сасны, якія маглі тлець на працягу ўсяго рытуальнага тэрміна.

А што сімвалізавала куцця? Гаршчок са свежай, яшчэ гарачай пшанічнай ці ячнай кашай уяўляецца нам сімвалам старажытнага рытуальнага ачага, у якім магічная роля адводзілася і самому агню, і зярнятам пшаніцы, ячменю, жыта, бабовых (прычым не толькі іх гліняным мадэлям, але і рэальным), а таксама крыжыкам з цеста і рагатым ляпёшкам, якія смажыліся і выпякаліся, як можна меркаваць, на гэтым свяшчэнным агні. Рагатыя ляпёшкі часткова з'ядалі ў дзень выпечкі, часткова пакідалі на дзень сяўбы або аддавалі жывёле. Яны былі сімвалам плоднасці, ураджайнасці. Такім жа сімвалам у пазнейшыя часы стала і куцця.

Пераапрананне на Каляды таксама мае асаблівае значэнне. Гэта рэлікт культу дахрысціянскага бога Вялеса (Воласа), бога ўсяго племяннога багацця, паляўнічых і жывёлагадоўчых даброт. Менавіта шэсць дзён студзеня былі "вясёлымі днямі", а першыя шэсць дзён прысвячаліся будучаму ўраджаю. Сувязь Вялеса з зімовымі святкамі доказваюць і ёлачныя цацкі ў выглядзе вавёрак, мядзведзікаў, зайчыкаў, і абрадавае печыва ў выглядзе звяркоў. 12-дзённыя Каляды, запоўненыя магічнымі дзеяннямі і варажбой, сімвалізавалі дванаццаць месяцаў новага года.

## Культура слова

Кастусь ЦВІРКА

# Зубішча

Першы раз я пачуў гэтае слова яшчэ ў дзяцінстве ад старой Анці Дубовік (даўно ўжо нябожчыцы). Так называлі ў нас ангіну. Ці не таму, што яна пасялілася адразу за зубамі? А можа, што ўзнікала яна ад нездаровых зубоў? У слоўніках беларускай мовы слова *зубішча* я не знайшоў. Затое нечакана напаткаў у "Слоўніку беларускіх гаворак...", дзе прыводзіцца прыклады яго бытавання з Вілейскага, Лагойскага, Шчучынскага і Ваўкавыскага раёнаў — можна сказаць, з усёй Беларусі. Цяпер гэтае народнае слова выціснулася з ужытку лацінскім — *ангіна*. Толькі ці павінны мы забываць беларускую назву гэтай хваробы? Вельмі правільна, што наш "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" падае народныя назвы розных хвароб (*сухоты, паралюш, крываўка, прануцы* ды інш.). Хай і з пазнакай *разм.* Чаму б не ўключыць у гэты шэраг і слова *зубішча*? Ведама ж, я быў бы зусім не супраць, каб усе гэтыя хваробы сышлі ад нас на сухія лясы, на махавыя балоты, на гнілыя калоды ды на ніцыя лозы. Але ж словы, якія іх абазначаюць, мы абавязаны захаваць, зберагчы. Яны ж — наша гісторыя.

# Дмухель

Як ні кручу, не ляжыць у мяне душа да слова *дзьмухавец*. Вельмі ж чуецца яго штучнае, літаратурнае паходжанне. Мусіць, муляе яно і Рыгору Барадуліну, бо ў адным з твораў, надаючы яму большай натуральнасці, ён назваў яго па-свойму і вельмі хораша — *абдуванчык*. Не мог не даць імя гэтай кідкай кветцы і народ. Адно з іх прыводзіць у сваім "Рэчыцкім Палессі" Часлаў Пяткевіч — *малачайка*. Пэўна, таму, што пры надломе, як і малачай, пускае белы сок. Людзі далі малачайцы, як зазначае этнограф, і адмысловую мянушку — *ці поп, ці пападдзя*. Бо так варожаць, абдуваючы на ёй пух: калі ўвесь зляціць, то гэта будзе *поп*, калі ж трохі застанецца, то *пападдзя*. "Энцыклапедыя прыроды Беларусі" падае некалькі народных назваў *абдуванчыка: малачай* (праўда, гэта іншая расліна), *багатка, коцікі, папок, дмухель, жоўтая цыкор'я, зубнік*. Для ўсеагульнага ўжытку, пэўна ж, трэба выбраць найбольш зразумелую. Думаю, лепш за ўсё падыходзіць тут слова *дмухель*, утворанае ад слоў *дмухаць* (*дзьмухаць*) і *зелле*. Кожнаму зразумелае і лёгкае слова, як пух гэтай кветкі-жаўтазелля, — *дмухель*.

# Гісторык, этнограф, фальклярыст

Аляксандр ВАШЧАНКА

**Прозвішча Барычэўскага сустрэлася мне некалькі гадоў таму, калі я даследаваў матэрыялы, звязаныя з беларусамі, якія ў 40-я гады XIX стагоддзя гуртаваліся вакол санкт-пецярбургскага часопіса "Маяк". Бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што менавіта Барычэўскі быў галоўным ідэолагам і арганізатарам санкт-пецярбургскага гуртка беларусаў — аматараў літаратуры і фальклору, якія, у адрозненне ад тых сваіх землякоў, што групаваліся вакол "Незабудкі" Баршчэўскага і пісалі на польскай мове, пісалі кірыліцай. Вось іх імёны: Іван Грыгаровіч, Фёдар Шымкевіч, Павел Шпілеўскі, Д. Пацукевіч. Сувязным ланцугом паміж "Незабудкай" і "Маяком" быў няўрымслівы Рамуальд Падбярэскі.**

## Першыя поспехі і расчараванні

Генадзь Кісялёў, у якога я кансультаваўся па найбольш важных для сябе пытаннях гісторыі літаратуры, параіў: "Займіся асобай Барычэўскага — будзеш першаадкрывальнікам". Я паслухаўся. Пачалася праца ў бібліятэках і ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі. Архіўныя фонды Мінскай духоўнай праваслаўнай кансісторыі захаваліся добра, таму ўжо напачатку працы ў справе "О соборных и крестовых протоиереях" за 1820 год я знайшоў звесткі пра бацьку Івана Пятровіча: "Минского кафедрального духовного Петропавловского собора протоиерей Петр Тарнава-Боричевский, 42 года, из дворян, присоединенного от Польши к России края, сын священника, обучался в Киевской Академии латинскому и польскому языку, богословию. Рукоположен в священники 16 октября 1806 года. 13 августа 1808 года произведен в протопопы, способен". Патлумачу: пратапоп або старэйшы поп — звычайная назва протаіерэя, якая азначае наступную пасля простага святара прыступку ў духоўнай кар'еры. Вядома, што да Мінска Пётр Барычэўскі працаваў у Барысаўскай Саборнай уваскрэсенскай царкве і меў пэўныя заслугі перад горадам Барысавам, бо 25 жніўня 1816 года ён напісаў прашэнне ў кансісторыю аб выдзяленні грошай на будаўніцтва новай царквы, таму што старая саборная царква была разбурана войскамі Напалеона. Было выдзелена 10 тысяч асігнацыямі, на якія царква была адбудавана.

Але дадзеныя пра дзяцей Пятра Барычэўскага не траплялася. У фондзе 136 за 1818 год ёсць справа са звесткамі пра прозвішча Барычэўскіх. Яна ўтрымлівае перапіску паміж Мінскім дваранскім дэпутацкім сходам і Слуцкім духоўным праўленнем аб прадстаўленні ў дэпутацкі сход выпісак з метрычных кніг пра паходжанне прозвішча Барычэўскіх. Пэўна, Барычэўскія хацелі пацвердзіць сваё дваранскае паходжанне. 21 лютага 1818 года сведчанні з метрычных кніг пра прозвішча Барычэўскіх, сярод якіх быў і Іван Пятровіч Барычэўскі, былі адасланы са Слуцка ў Мінскі дваранскі сход. Я таксама пагледзеў метрычную кнігу пра народжаных у горадзе Слуцку за 1810 год. Але мяне чакала расчараванне: метрычныя кнігі за гэты перыяд не захаваліся. Паспрабаваў звярнуцца да архіваў Мінскага дэпутацкага сходу, дзе ў справах за 1818 год павінны былі захавацца выпіскі з метрычных кніг пра прозвішча Барычэўскіх, дасланых туды са Слуцка. Зноў няўдача — кніга працаколаў за 1818 год не захавалася. Другі том "Гербоўніка беларускай шляхты" (Мінск, НАРБ, 2007) на літару "Б" таксама не ўтрымлівае звестак пра Івана Пятровіча Барычэўскага 1810 года нараджэння. Здавалася б, усё, пошукі зайшлі ў тупік. Заставалася кволая надзея на горад Барысаў. І нарэшце мне пашчасціла! Вось што я знайшоў у метрычнай кнізе пра народжаных па Барысаўскай саборнай Уваскрэсенскай царкве за 1810 год.

*Номер*
*30*
*Число рождения*
*Октября 19*
*У кого кто родился*
*Борисовской Соборной Воскресенской церкви протоиерея Петра Боричевского и его первобрачной жены Синклитикии Лазоревны родился сын Иван, который обмолитвован и крещен Лошницким благочинным священником Михаилом Самборским. При отправлении сей требы был диакон Стефан Лисовский.*
*Число крещения*
*Восприемники*
*Борисовский Г. Городничий Андрей Кирилов Шаталов — коллежский асесор Поветового стряпчего титулярного советника Сильвестра Насовича жена Марья Павловна.*
*Православного исповедания*

Але вядома, што тады календар быў юліянскі, таму, перавёўшы дату ў сучасны грыгарыянскі, атрымліваем: беларускі пісьменнік, гісторык і этнограф Іван Пятровіч Барычэўскі нарадзіўся 1 лістапада 1810 года ў горадзе Барысаве. Знікла яшчэ адна белая пляма нашай культурнай гісторыі.

## Колькі слоў пра род Барычэўскіх

Тое, што хросным бацькам будучага гісторыка быў галоўны барысаўскі гараднічы Андрэй Кірылавіч Шаталаў, паказвае, што протаіерэй Пётр Барычэўскі быў адметнай асобай у барысаўскім грамадстве. Барычэўскія, Тарнава-Барычэўскія паходзілі з Пінскага павета, валодалі маёнткам Барычэвічы, ужывалі гербавы прыдомак Тарнава. Першае калена вядома з сярэдзіны XVI стагоддзя. Барычэўскія былі прызнаныя ў дваранстве пастановай Дэпутацкага Дваранскага сходу ад 22.11.1802 года (6-я частка), але ўказам сената не зацверджаныя (23. 01. 1838).

Як жа складваўся лёс Івана Пятровіча Барычэўскага? Першапачатковую адукацыю ён атрымаў у Мінскай духоўнай семінарыі, пасля заканчэння якой у ліку лепшых выпускнікоў паступіў у Кіеўскую духоўную акадэмію. Скончыўшы яе, Барычэўскі з 1833 па 1835 гады працаваў выкладчыкам славеснасці ў Арлоўскай семінарыі; потым служыў у дэпартаменце шляхоў зносін і публічных будынкаў, у дэпартаменце дзяржаўных маёмасцей і ў інспектарскім дэпартаменце ваеннага міністэрства. У 1841 годзе Барычэўскі зноў паступіў у галоўнае ўпраўленне шляхоў зносін і займаў там пасады чыноўніка асобых даручэнняў, дырэктара канцылярыі Міністэрства шляхоў зносін і ў 1870-х гадах — члена рады таго ж міністэрства.

## Дзейнасць у літаратуры і навуцы

Актыўна працаваць у гэтым кірунку Барычэўскі пачаў у 1837 годзе артыкуламі, якія друкаваліся ў "Часопісе Міністэрства Народнай Асветы", сярод іх найбольш буйнымі былі: "Паданні Адольфа Лізека аб пасольстве імператара рымскага Леапольда да вялікага цара Маскоўскага Аляксея Міхайлавіча ў 1675 годзе" (1837), "Аб рускім летапісе ў Літве, які завецца Хронікаю Быхаўца" (1838), "Першае падарожжа англічан у Расію ў 1553 годзе" (1838), "Вытрымкі з паданняў Я. Рэйтэнфельса аб стане Расіі пры цару Аляксею Міхайлавічу" (1839) і "Меклен-бургскія старажытнасці" (1839).



Добрае веданне польскай мовы дазваляла Барычэўскаму выкарыстоўваць у сваіх публікацыях цытаты з работ Тэадора Нарбута, Іпаліта Клімашэўскага, Мацея Стрыйкоўскага. Наогул, многія яго артыкулы — пераклады на рускую мову ўрыўкаў з кніг беларуска-польскіх гісторыкаў і своеасаблівая папулярызацыя гісторыі і вуснай народнай творчасці роднага краю сярод расійскіх чытачоў.

Першая вялікая праца Барычэўскага "Аповесці і паданні славянскіх плямён" у двух тамах выйшла ў 1840 — 1841 гадах у Санкт-Пецярбургу і стала сапраўднай навінай для расійскіх чытачоў. Гэта былі апрацаваныя пісьменнікам польскія, галіцкія, венгерскія, мазавецкія, сербскія, украінскія легенды і паданні. Ужо іх назвы ("Пан Твардоўскі", "Смерць чарнакніжніка", "Дамова з д'яблам", "Ваўкалака", "Чорная кніга", "Лятучы Змей", "Вампір") паказваюць, што Барычэўскі звярнуўся да міфалагічнай даўніны. У прадмове ён піша: "Жаданне звярнуць увагу суайчыннікаў на славянскую народнасць было адзінай прычынай, якая прымусіла мяне ўзяцца за гэтую працу". Дзве маленькія, у чвэрць ліста, кніжачкі выклікалі вялікую цікавасць сярод расійскіх чытачоў, і ў 1844 годзе пісьменнік выпусціў працяг гэтай працы: "Народныя славянскія аповеды". У кнізе ўпершыню з'явіліся і беларускія легенды, паданні, казкі і жартаўлівыя аповеды, прычым пісьменнік раздзяляе іх па месцы паходжання: з Белай і з Чорнай Русі. Звяртаюць на сябе ўвагу "Беларускія павер'і", бо пад гэтай назвай змешчаны 170 прыкмет беларускага народа, сабраныя Міхасём Загароўскім (на жаль, звестак пра гэтага чалавека я пакуль што не знайшоў).

## У цэнтры ўвагі: старажытная Літва

Амаль у той жа час Барычэўскі адным з першых звярнуўся да вывучэння гісторыі і старажытнасцей літоўска-рускага краю і напісаў дзве вялікія працы: "Даследаванне аб паходжанні, назве і мове літоўскага народа" (Спб., 1847), "Праваслаўе і руская народнасць у Літве" (Спб., 1851), акрамя цэлага шэрагу дробных артыкулаў: "Звесткі аб старажытных літоўцах" (1844), "Урывак з літоўска-рускай гісторыі" (1845) і інш. Да старажытнай Літвы ён адносіў невялікую тэрыторыю, якую ў яго часы займалі некаторыя паветы Віленскай і Ковенскай губерняў і дзе некалі жылі старажытныя прусы. Мова, пісьменства, язычніцкія багі і боствы, святы і абрады плямёнаў, што некалі засялялі гэтую тэрыторыю, былі прадметам яго даследаванняў. Вялікі фактычны матэрыял, які абапіраўся на малавядомыя гістарычныя крыніцы, рабіў гэтыя працы цікавымі як для чытачоў, так і для гісторыкаў і мовазнаўцаў. Адна акалічнасць: гістарычныя падзеі Барычэўскі падае з пункта гледжання рускага праваслаўнага святара. Ва "Урыўку з літоўска-рускай гісторыі", дзе прыводзяцца падзеі з 1131 па 1190 гады, ён спрачаецца з Нарбутам, лічыць, што той прыпісаў літоўцам бліскучыя перамогі. "Няхай славіцца імя літоўцаў там, дзе слава належыць ім па праве пераможцаў. Але навошта ўпрыгожваць іх памяць перамогамі, якіх не было? Імя рускае не павінна быць прыніжана паразамі, што не мелі месца", — піша ён ва "Урыўку…".

Пасля пісьменнік рэдагаваў пяты том "Актаў, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі". У 1840-х гадах Барычэўскі звярнуўся да агляду "Губерских ведомостей" і зрабіў з іх мноства каштоўных вытрымак па розных пытаннях: па гісторыі епархій і іерархаў, па апісанні манастыроў, па гісторыі і старажытнасцях, па мовазнаўстве, па гісторыі кнігадрукавання ў Расіі, па гістарычнай геаграфіі, статыстыцы, этнаграфіі і іншых галінах. Гэтыя яго агляды ахоплівалі "Губерские ведомости" за час ад 1842 па 1850 гады і друкаваліся ў "Журнале Министерства народного просвещения" за 1848 — 1855 гады. З 1860 года, калі Барычэўскі быў прызначаны дырэктарам канцыляры Міністэрства шляхоў зносін, яго ранейшая актыўная навукова-літаратурная дзейнасць нібы перарываецца. За ўвесь наступны час з'явіліся толькі тры працы: "Весткі аб старажытных помніках, якія адносяцца да ведамства галоўнага кіравання шляхоў зносін і публічных будынкаў" (у "Известиях Императорского Археологичеckого общества" за 1861 г.), "Кіеўскія пячоры" (Спб., 1872) і "Пакуцце ў археалагічных адносінах. Даследаванне А. Г. Кіркора" (Poсutie pod wzgledem archeologicznym. Krakow, 1876)" (Спб., 1876 г.). Акрамя таго, пяру Барычэўскага належаць: "Паданне польскага гісторыка Кабержыцкага аб паходах Сігізмунда III і Уладзіслава IV у Расію" (у "Сыне отечества", 1842 г.), "Прапановы прыватных асоб аб будаўніцтве чыгунак, якія паступілі ў галоўнае кіраванне шляхоў зносін і публічных будынкаў" (у "Журнале Главного управления путей сообщения и публичных зданий", 1863 г.). Апошні грунтоўны агляд меў вялікі грамадскі рэзананс і выклікаў цэлы шэраг меркаванняў. Акрамя таго, Барычэўскі — аўтар мноства дробных артыкулаў і рэцэнзій, што друкаваліся ў "Военно-энциклопедическом словаре", "Маяке", "Санкт-петербургских Ведомостях", "Христианском Чтении" і іншых выданнях.

Іван Пятровіч быў адным з галоўных супрацоўнікаў санкт-пецярбургскага часопіса "Маяк", і публікацыя Львом Кавеліным у 1845 годзе першай рэдакцыі "Энеіды навыварат" была прысвечана менавіта яму. Тады ж у "Маяку" было змешчана цікавае пісьмо настаўніка з Гародні В. Ігнатовіча да Барычэўскага, прысвечанае стану школьнай і бібліятэчнай справы на Беларусі.

Памёр Іван Пятровіч Барычэўскі 24 чэрвеня 1887 года ў Выбаргу. Яго архіў не знойдзены, партрэта не захавалася, і ніводны (!) твор пасля смерці не быў надрукаваны. Вось так мы "помнім" свайго земляка, які шмат зрабіў для вывучэння і захавання матэрыялаў па гісторыі роднага краю і якога сучасныя расійскія энцыклапедыі называюць "расійскім гісторыкам". Мне здаецца, што выданне кнігі твораў Барычэўскага было б лепшай даніной памяці чалавеку, які вывучаў і даследаваў гісторыю і фальклор роднага краю і папулярызаваў іх сярод расійскіх чытачоў.

Павел САКОВІЧ

*(пародыі)*

## Вершы-ліпучкі

*Усё спарахнела і няма ратунку...*
*Усё, што пела, сёння анямела.*
*Друкуюць вершы трэцяга гатунку,*
*О, колькі мух на іх ужо насела!*

***Уладзімір ПАПКОВІЧ***



Няма сягоння чытачу ратунку.
Што з прэсай нашаю, скажыце, стала?
Друкуюць вершы трэцяга гатунку,
Як заляжалыя каўбасы, сала.

Іх пішуць аўтары бесперапынку —
Хутчэй у класікі! Таму не дзіва:
Ні рыфмаў там, ні знакаў тых прыпынку,

А сэнс схаваны так — хіба ў Навінках
Памогуць адшукаць... у перспектыве.

Чытацкія не пройдуць марна мукі:
Мы вершы гэткія звядзём дачыста!
На іх населі ўжо не толькі мухі —
Яшчэ і санітары-парадысты.



*Шаржы Аляксандра Каршакевіча*

## Здаваць ці... здавацца?

*Я ўрастала ў цябе, як трава*
*прарастае ў асфальт, хацела сысці,*
*але чула пяшчотнае: "Halt!"*

***Таццяна СІВЕЦ***

Хацела я збегчы,
а ён кажа: "Halt!"
Дрыжэць сталі ногі,
крычу нема гвалт.
Нямецкі ўзгадала,
пытаюся: "Was?"
А той патрабуе ізноў:
"Ausweis?"
Абмацаў,
пістолю ўзняў на мяне...
А я: — Васямнаццаць
мне хутка міне.
"Лажыся, — камандуе ён, —
на асфальт".

А я нерашуча:
— Тут мулка і kalt…
— А ты прарасцеш у мяне.
Ну, давай! —
І тут жа лічыць пачынае:
"Ein, zwei..."

Прачнулася я і рашуча ўстаю:
Залік па нямецкай
я сёння здаю...
Ай, здамся я "немцу",
як скажа мне "Halt!",
Інакш правалю...
Што тады: на асфальт?

Казімір КАМЕЙША

## Загадкі

Біў тата часта гэным пасам,
І крытык б'е балюча часам…

*Папруга*

Без іскры божае і цеста
Спячэ паэму ці раман.
І вы пазнаеце без тэста,
Што перад вамі…

*Графаман*

Калі ў школе
ўсе пісалі,
Ён заўсёды спісваў.
Хто ён,
адгадайце самі,
Як раман ваш свіснуў.

*Плагіятар*

У моры драбнатэм'я шэрым
Пад хваляў шум, пад ветру свіст,

Сябе, чарніла, час, паперу
Дарма марнуе…

*Марыніст*

У першым туры
знік адразу,
Але настырны быў, як тур,
У трэці рынуўся — параза.
Твая ў тым драма…

*Драматург*

*Гумарэска*

## Заява

"Начальніку аддзела кадраў таварыства з абмежаванай адказнасцю "Паўночнае ззянне" Паўлоўскаму Т. І. ад інжынера аддзела збыту Сідарава Анатоля Дзям'янавіча, 1959 года нараджэння, беларуса, адукацыя вышэйшая, добрасумленнага, працавітага, стараннага, ініцыятыўнага, дысцыплінаванага, вопытнага работніка, высокаэрудзіраванага, кампетэнтнага спецыяліста, які бачыць перспектыву і ўмее выбіраць прыярытэтныя напрамкі ў сваёй дзейнасці, добрага і надзейнага памочніка і настаўніка маладых супрацоўнікаў, прыкладнага сем'яніна без шкодных звычак, выдатнага мужа і бацькі дваіх цудоўных дзяцей, ветлівага, добра выхаванага, маральна ўстойлівага чалавека, — заява: прашу выдаць мне характарыстыку для прадстаўлення ў раённы аддзел унутраных спраў у сувязі з тым, што супрацоўнікі міліцыі затрымалі мяне ў нецвярозым стане, калі я ў навагодні вечар рэгуляваў рух аўтатранспарту на перакрыжаванні вуліц.

Сідараў А. Д."

**Заяву даслаў**
**Міхась СЛІВА**






*Малюнкі Аляксандра Каршакевіча*

Ціт КАПЫТ

# Навагоднія эпіграмы

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

Прайшоў, як крытык,
смела ля Пампеі,
На празаічны выехаў бальшак.
Шчыруе сёння ён над эпапеяй
Не меней пладавіта, чым Бальзак.

**Мікола МЯТЛІЦКІ**

Мы ведаем добра пра тое,
І лішне нашто гаварыць —
У "Нёмане" родным не тоне
І ў "Полымі" ён не гарыць.

Калі пра юнацтва згадае,
Дзе ён і вандроўнік, і госць,
Набраўшыся моцы з гадамі,
Нырца ён дае ў "Маладосць".

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**



*Шарж Аляксандра Каршакевіча*

Ён — голасам салоўкі і зубра,
А часам, як захоча, то і жаўра.
Як майстру залачонага пяра,
Яму, лічы, усе падуладны жанры.

**Уладзімір ФЕДАСЕЕНКА**

Не сябраваў нідзе са жлобамі.
Ў гады вайны, як падрыўнік,
Ён пад адхон
пад родным Жлобінам
За цягніком пускаў цягнік.

Сягоння там, дзе горад з вёскаю
Знаходзіць полчышчы грыбоў,
З прапіскай гарадскою лагойскаю
Пускае ў неба галубоў.

**Віктар ШНІП**

Ў чужыя лазіў агароды,
Не шкадаваў суседскіх шыб.
Паходзіць з рыцарскага роду
Ён, як і продак Герман Шніп.

Ў імя Радзімы, без цэнзуры,
Ён выдавецтва — так і быць! —
Гатовы, быццам амбразуру,
Грудзямі кніг сваіх закрыць.

**Мар'ян ДУКСА**

У вёсцы знаюць, калі толькі Дукса
Над вершамі бярэцца шчыраваць,
Спрэс у вагонах каля Гродна буксы,
А ўтулкі у вазах паўсюль гараць.

**Уладзімір КАРЫЗНА**

Паслухаць кожнаму карысна,
Як верш чытае Ул. Карызна.
Калі ён будзе і пра гузікі,
То ў ім гучаць радкі, як музыка.
У ім і рытм, і "штыль" высокі,
Хоць ты ідзі адразу ў скокі.
І зразумееш ты, як след:
Ён кампазітар, ён — паэт,
Якім яго і знае свет.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

У бездані вершаў не раз ён тануў,
Каб вывудзіць нейкага
часам карасіка.
Разанаў яму верш яго чытануў —
І ўмомант Навум здагадаўся,
што класіка!

**Павел САКОВІЧ**

Каб не было дакораў, лямanту
І не застацца на бабах,
З рагаткі цэліцца ў мамантаў,
З гарматы б'е па вераб'ях.

**Юлія ЗАРЭЦКАЯ**

Тарасаў бас
на ўвесь Парнас гучыць:
— З Зарэцкай запрашайце
нас у госцейкі!..
Ну хто сказаў з празорцаў,
што жанчын
На капітанскім не бывае мосціку?

**Юрый САПАЖКОЎ**

Паэзію і крытыку ён браў
Не раз, як кажуць,
проста за пашчэнкі.
І кніжку ў дзве рукі рэдагаваў —
Каго? — дальбог, самога Еўтушэнкі!
Даводзіў так да ладу, да кандыцыі,
Аж покуль не пачуў ён:
"Ды ідзіце вы..."

**Надзея СТАХОВІЧ**

За дзень радкоў не піша тысячы,
Не гнецца крукам над сталом.
А скажа слова — быццам высеча
На камні вострым тапаром.

Не траціць дружбы з вёскай, хатаю.
Ёй дарагі там кожны куст.
У вершах — выразы крылатыя.
Ну не паэт — залатавуст!

**Яўген ХВАЛЕЙ**



*Шарж Міколы Гіргеля*

Хоць мае прозвішча — Хвалей,
Але не любіць ён ялей.
Калі пачнуць бязмерна ліць
І фіміям курыць без меры.
Да зяця за мяжу збяжыць,
Як ад назойлівай хімеры.
А зяць яго — за чысты стол,
Каб ён прастою ані ведаў, —
Пішы за суткі вершаў сто, —
Не хоча знаць ён дармаедаў!

**Васіль ТКАЧОЎ**

Яму радня і Пінск, і Рагачоў,
Дзе лес расце яловы і сасновы.
І як нашчадак ды і ўнук ткачоў,
Тчэ прозу ён з утока і асновы.

Яго ідуць палотны на "ура".
Ён уватчэ ў іх чаўнаком і цэўкай
То шолахаўскага дзеда Шчукара,
То дружбака Балдоўскага знячэўку.

# Пашкадуйце ўдзельнікаў алімпіяды...

**Іван ЛЕПЕШАЎ,**
**прафесар ГрДУ**
**імя Янкі Купалы**

**Два выкладчыкі-філолагі нашага ўніверсітэта, якія штогод бяруць удзел у правядзенні абласных алімпіяд па беларускай мове, неаднойчы расказвалі, што некаторыя заданні і тэсты, дасланыя з Міністэрства адукацыі, не пад сілу не толькі старшакласнікам, але і ім — прафесару і дацэнту.**




Фота Кастуся Дробава

Па прыклады далёка хадзіць не трэба. Сумняваюся, што хто-небудзь з чытачоў нашага штотыднёвіка дасць патрэбны адказ на заданне 3, змешчанае на с. 78 у вялікай публікацыі У. Рагойшы і А. Радзевіча (Роднае слова. 2010. № 8. С. 74 — 84) пад рубрыкай "Рыхтуемся да алімпіяды". Вось гэта заданне:

*Заданне 3.* Растлумачце, з якой мэтай ужываюцца прыведзеныя выказванні. Запішыце ўласны варыянт "формулы" для фіксацыі і аднаўлення "гэтага".

Максімальная колькасць балаў — 6.

Чому пінгвіни живуть зимою без своїх фантазій? (*укр.*); Кот ослу, жирафу, зайке голубые сшил фуфайки (*рус.*).

Далей размова пойдзе толькі пра некаторыя заданні па фразеалогіі (з той жа публікацыі).

У заданні 4 патрабуецца ўстанавіць "адпаведнасць паміж рускімі і беларускімі фразеалагізмамі" і запісаць адказ "у форме літарна-лічбавага спалучэння". Гаворыцца, што максімальная колькасць балаў — 5 (адзін бал за правільна вызначаную пару). Затым даецца табліца:

**Руская мова**
**А)** счастливого пути
**Б)** тихий ангел пролетел
**В)** турусы на колесах
**Г)** часы пик
**Д)** в момент

**Беларуская мова**
**1)** хоць мак сей
**2)** як стой
**3)** са́ма розрух
**4)** журавель на хвойцы
**5)** шчасць Божа па дарозе

Гледзячы на верхнюю частку табліцы, дзіву даешся: чаму ў лік фразеалагізмаў трапіла словазлучэнне *счастливого пути*? У ім няма нічога фразеалагічнага, тут кожнае слова захоўвае сваё звычайнае лексічнае значэнне, а само словазлучэнне выкарыстоўваецца як добрае пажаданне ў дарогу, падарожжа, паход, паездку. Ёсць аналагічнае спалучэнне і ў беларускай мове (*Шчаслівай дарогі!*), фіксуецца ў ТСБМ (т. 2, с. 141). Але ў абодвух выпадках гэта не фразеалагічныя адзінкі.

Другі па парадку выраз, змешчаны ў верхняй частцы (*тихий ангел пролетел*), у сучаснай рускай мове не ўжываецца і калі ў якім-небудзь даведніку фіксуецца, то абавязкова з паметай "устарэлы". Ён пададзены, напрыклад, у двухтомніку М. І. Міхельсона (1903 г.). Дык навошта ж уключаць у табліцу архаічнае і падбіраць да яго беларускія адпаведнікі?

Паглядзім цяпер на ніжнюю частку табліцы. Выраз *як стой* ёсць амаль ва ўсіх беларускіх фразеалагічных слоўніках. Ёсць ён і ў ТСБМ (т. 5, кн. 1, с. 323). А пра астатнія чатыры нібыта фразеалагізмы (*хоць мак сей, са́ма розрух, журавель на хвойцы, шчасць Божа па дарозе*) ці чуў хто з чытачоў "ЛіМа"? Няма іх і ў даведніках І. Насовіча, Е. Раманава, Я. Ляцкага, М. Федароўскага, Ф. Янкоўскага, Я. Камароўскага, Г. Юрчанкі, М. Даніловіча і інш., няма і ў слоўніках літаратурнай мовы. У такім разе няцяжка ўявіць становішча нават самых лепшых удзельнікаў алімпіяды. Адкуль жа складальнікі задання набралі гэтую сямейку квазіфразеалагізмаў?

Пераклад фразеалагізмаў з адной мовы на другую ці падбор адпаведнікаў да іх — справа далёка не лёгкая і вельмі адказная. У нас пакуль што няма руска-беларускага фразеалагічнага слоўніка, але пераклад досыць многіх фразеалагізмаў даецца ў акадэмічным "Руска-беларускім слоўніку". Складальнікі ж задання звярталіся не да гэтага слоўніка, а да іншых, зробленых на аматарскім узроўні — з прэтэнзіяй на арыгінальнасць. А менавіта да слоўнікаў З. Санько ("Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем"; 1991) і Е. Баярынай, У. Сіўчыкава ("2000 русских и 2000 белорусских идиом, фразеологизмов и устойчивых сочетаний"; 2006).

Аўтары гэтых слоўнікаў — не спецыялісты ў галіне фразеалогіі. Яны адвольна, беспадстаўна надаюць вельмі многім выразам статус рускага першародства і гэтак жа адвольна падбіраюць нейкія быццам бы беларускія адпаведнікі, якіх, аднак, няма ў нашай літаратурнай мове. Вось толькі адзін прыклад.

У Янкі Купалы ёсць верш "Не ўсе дома", дзе гэты выраз як рэфрэн паўтараецца аж 14 разоў. Гераіня "Паўлінкі" кажа: "У Якіма не ўсе дома, бо поначы ходзіць да маладых дзяўчат". У Якуба Коласа знаходзім: "Сам жа рэдактар для іх быў чалавекам, у якога не ўсе дома". Не цураліся агульнанароднага выразу К. Крапіва, Р. Мурашка, І. Мележ, Р. Барадулін і іншыя пісьменнікі. Амаль аднолькава ён гучыць у рускай, украінскай, польскай, чэшскай мовах, у польскай мове занатаваны ўжо ў XVI ст. (*nie wszyscy w domu*). У слоўніку ж З. Санько выраз *не все дома* (с. 78) кваліфікуецца як рускі, да яго прыводзіцца набор якіхсьці беларускіх эквівалентаў (*без пятай дошчачкі, не ўсе дошчачкі ў парадку, не ўсе ў бердзе, клёку ў галаве не мае, алею ў галаве мала*), сярод якіх, зразумела, няма *не ўсе дома*. Выходзіць, і Янка Купала, і Якуб Колас памыляліся, і ўсе нашы слоўнікі памыляюцца...

Прыкладна тое самае і ў слоўніку Е. Баярынай, У. Сіўчыкава: *не все дома — алею ў галаве мала, клёку не стае* (с. 121).

Шкада, што такі вольны пераклад, ці, сказаць дакладней, недарэчны, памылковы, набываючы аўтарытэтную моц, укараняецца ў практыку, асабліва ў навучальную літаратуру. Небездакорны матэрыял гэтых даведнікаў уключаецца ў віктарыны, выкарыстоўваецца на абласных і рэспубліканскіх алімпіядах па беларускай мове і, напэўна, у школьнай практыцы выкладання мовы.

> "Пераклад фразеалагізмаў з адной мовы на другую ці падбор адпаведнікаў да іх — справа далёка не лёгкая і вельмі адказная. У нас пакуль што няма руска-беларускага фразеалагічнага слоўніка, але пераклад досыць многіх фразеалагізмаў даецца ў акадэмічным "Руска-беларускім слоўніку". Складальнікі ж задання звярталіся не да гэтага слоўніка, а да іншых, зробленых на аматарскім узроўні — з прэтэнзіяй на арыгінальнасць. А менавіта да слоўнікаў З. Санько ("Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем"; 1991) і Е. Баярынай, У. Сіўчыкава ("2000 русских и 2000 белорусских идиом, фразеологизмов и устойчивых сочетаний"; 2006).

Вернемся да задання 4. У памянёнай публікацыі на с. 80 даюцца даведкі да заданняў. Засведчана, што "правільны адказ" да задання такі: "А-5", г.зн. *счастливого пути — шчасць Божа па дарозе*; "Б-2", г. зн. *тихий ангел пролетел — як стой*; "В-4", г.зн. *турусы на колёсах — журавель на хвойцы*; "Г-3", г.зн. *часы пик – са́ма розрух*; "Д-2", г.зн. *в момент — як стой*. Складальнікі гэтага задання пераклад выразу *часы пик* (*са́ма розрух*) узялі з кнігі Е. Баярынай і У. Сіўчыкава (с. 225). Пераклад астатніх выразаў перапісаны з кнігі З. Санько (гл. нумары 1247, 1263, 542). Што да перакладу рускага ўстарэлага фразеалагізма *тихий ангел пролетел* (ён абазначаў 'раптоўна ўсе замоўклі'), то складальнікі задання далі маху: у абедзвюх кніжках, з якіх яны "перакрадалі", даецца не *як стой* ('вельмі хутка'), а *хоць мак сей, як мак засеялі*...

Сапраўдны ж, адэкватны пераклад трох іншых фразеалагізмаў толькі такі: *турусы на колесах* (недакладная паўкалька з італьянскай мовы *turres ambulatoriae*, літаральна "турусы, якія рухаюцца") — *турусы на калёсах* (ужыванне ілюструецца ў "Слоўніку фразеалагізмаў", 2008, т. 2, 143, 300) прыкладамі з твораў Я. Коласа, Э. Валасевіча, Б. Стральцова); *часы пик — гадзіны пік; в момент — у <адзін> момант*.

Ёсць у публікацыі У. Рагойшы і А. Радзевіча і іншыя заданні па фразеалогіі. Яны таксама недакладныя, зарыентаваныя не на факты літаратурнай мовы, а на тую самую крыніцу — слоўнік З. Санько. Так, на с. 81 у заданні 4 трэба ўстанавіць "адносіны паміж фразеалагізмамі і іх значэннем". Як сведчаць даведкі (с. 83), усе адказы даслоўна спісаны са слоўніка З. Санько (нумары 811, 215, 548, 1102, 812, 814). Тут у адну кучу змешваюцца фразеалагізмы агульнанародныя і, відаць, вузкамясцовыя ці, можа, прыдуманыя, а таксама, напэўна, прыказкі, якія нідзе, апрача гэтага ж слоўніка, не прыводзяцца (*Калі з роду баравік, то лезь, браце, у кошык*). Ну як нават выдатны ўдзельнік алімпіяды справіцца з такім заданнем?

У часопісе з году ў год друкуюцца матэрыялы да алімпіяды. Чытаючы іх, нярэдка сутыкаешся з такімі заданнямі, якія паспяхова выканае толькі сам іх складальнік або ў якіх ёсць няправільнасці, недарэчнасці, недакладнасці.

Напрыклад, яшчэ ў адной публікацыі, змешчанай у рубрыцы "Рыхтуемся да алімпіяды" (Роднае слова. 2009. № 9. С. 74), прапануецца (заданне 7) выпісаць са сказаў Якуба Коласа фразеалагізмы і патлумачыць іх значэнне. "Максімальная колькасць балаў — 5". І сказаў — 5. Але толькі ў двух ёсць фразеалагізмы (*як бабе старой сесці, вачэй не зводзіць*). У астатніх жа – іх і са свечкай не знойдзеш. Складальнік заданняў хоча, каб следам за ім і дзевяцікласнікі лічылі фразеалагізмамі словазлучэнне *запаліць агонь у сэрцах* у сказе *Сапраўднае ж слова паэта-грамадзяніна павінна запальваць агонь у сэрцах людзей*. Але гэта словазлучэнне не мае ні ўстойлівасці, ні ўзнаўляльнасці на агульнамоўным узроўні, характэрных для любога фразеалагізма. Перад намі аўтарская разгорнутая метафара, заснаваная на слоўнікавых пераносных значэннях яе кампанентаў. У двух другіх сказах, як пазначана ў даведках да задання, складальнік аднёс да фразеалагізмаў словазлучэнні *пот праняў* і *выкінуць штуку*, хоць у іх кожнае слова рэалізуе сваё лексічнае значэнне, засведчанае ў тлумачальных даведніках.

Хацелася б, каб складальнікі заданняў сур'ёзна, з адказнасцю і па-навуковаму адносіліся да сваіх непасрэдных абавязкаў ды не ставілі ўдзельнікаў алімпіяды ў безвыходнае становішча.

## Духоўныя скарбы

Артыкул, які мы прапануем увазе чытачоў, — не выпадковасць. Яго аўтар — краязнаўца па зацікаўленнях і банкаўскі служачы па асноўнай сваёй прафесіі — з'яўляецца калекцыянерам. Але — не філатэлістам, не нумізматам, не філакартыстам… Зміцер Цехановіч збірае беларускія афарызмы. Мяркуе выдаць адмысловую кнігу са сваіх збораў. Пра ўсё гэта вы даведаецеся з яго артыкула. Друкуючы развагі чуйнага да беларускай літаратуры чалавека, мы распачынаем публікацыю афарызмаў Уладзіміра Караткевіча з калекцыі Зміцера Цехановіча на старонках "Літаратуры і мастацтва".



# …У прытчах затоена мудрасць

**Зміцер ЦЕХАНОВІЧ**

### Мы ўсе пад Богам ходзім…

Самымі першымі пачутымі мною афарызмамі былі беларускія прыказкі, прымаўкі, якіх досыць багата ведае мая мама — Цехановіч Зінаіда Ігнатаўна. "Мы ўсе пад Богам ходзім"; "Паслала Рыгора па пясок за мора — ні Рыгора, ні пяску (пра маруду)"; "Воўк сабакі не баіцца, але звягі ня любіць"; "Сцеражонага Бог сцеражэ".

### Колькі ж часу я мушу чытаць?

Да літаратурных афарызмаў мяне прыгарнула менавіта знаёмства з творчасцю Уладзіміра Караткевіча. Было мне тады 16 год, і ў якасці пазакласнага чытання нам быў зададзены раман "Каласы пад сярпом тваім". Памятаю, калі ўзяў гэты том у бібліятэцы, падумаў: "Нішто сабе кніга — такая вялікая. Гэта ж колькі часу мушу яе чытаць!" Але прыйшоў дадому, разгарнуў — і прачытаў за суткі. Уразіла ўсё: шчымліва-светлы, аддана-беларускі дух твора, галоўныя героі, сюжэт, сакавітая мова, апісаныя ў ім старадаўнія беларускія звычаі і нават уватканыя ў палатно рамана вершы аўтара. Некаторыя старонкі чытаў і перачытваў, пазначаў алоўкам упадабанае, а пасля — выпісаў шэраг цытат у новенькі кішэнны нататнік. Свой нататнік з першымі запісанымі цытатамі і афарызмамі Караткевіча я ўзяў з сабой у армію — нагэтульки дарагім мне стала Слова Пісьменніка!

Сёння ў маёй калекцыі 56 афарызмаў Уладзіміра Караткевіча. Кожнае прачытанне твораў пісьменніка прыносіць новыя адкрыцці.

Другі фактар, які пасадзейнічаў хобі, — як ні дзіўна, адсутнасць вольнага часу. У імклівым лёце дзён маю мінімум часу на чытанне. Але не чытаць не магу, бо з маленства прывучаны да кнігі. У такой сітуацыі выйсце — у чытанні мінімальна неабходным, але ўважлівым, асэнсаваным… бачыць галоўнае. Не скарыстацца гэтым у захапленнях — грэх.

> "Зборнікі афарызмаў (у тым ліку літаратурных) з'яўляюцца адным з індыкатараў засваення ўласнай культуры. Нажаль, мне недаводзілася гартаць падобныя беларускія зборнікі, за выключэннем невялічкай (выдадзенай дзясяткі гадоў таму) кніжачкі літаратурных афарызмаў Фёдара Янкоўскага — дарэчы, лінгвіста, "майстра дэталі і слова, пісьменніка тонкага густу" (Павел Місько). Між іншым, нядаўна прачытаў, што мараю Фёдара Янкоўскага было скласці вялікую кнігу афарызмаў…

### З маркерам у руцэ

Прафесія эканаміста толькі дапамагае майму захапленню. Важнейшай часткаю прафесійных абавязкаў з'яўляецца сістэмная аналітычная праца. А што ёсць укладанне кнігі афарызмаў? Гэта аналіз тэкстаў (літаратурных, публіцыстычных, навуковых). Выяўленне ў іх яскравых, самадастатковых думак — афарызмаў. І іх сістэматызацыя паводле абранага прынцыпу ўкладання кнігі. Мая прафесія падаравала мне ўменне саваным, "у асалоду", з маркерам у руцэ (калі пазначаеш найбольш упадабаныя думкі і фразы).

### Келіх, што ледзь прыгубілі

Насамрэч, беларуская духоўная культура вартая таго, каб калекцыянераў беларускіх афарызмаў былі не адзінкі, а сотні. У кожнай нашай кнігарні мусіць быць паліца не толькі з анталогіямі замежных афарызмаў, але і — найперш — беларускіх.

Мы, беларусы, надзвычай некампетэнтныя ў сваёй літаратуры. Мы элементарна не асэнсавалі, не пераструктуравалі створанае, напрацаванае папярэднікамі. Наша літаратура надзвычай разнастайная і багатая, але мы пакуль не здолелі яе як след раскаштаваць. А як можна быць кампетэнтным у тым, што ледзь спазнаў?

Вось прыклады: у нас не пастворана сучасную беларускай мовай цэлыя карпусы старабеларускіх тэкстаў, надзвычай мала акадэмічных выданняў (нават сваёй класікі), дзе адкаментаваны ці не кожны радок, падаюцца варыянты твораў, сабрана ўсё, што датычыцца аўтара. Далёка не ўсе нашы класічныя творы "парасцяганыя" на цытаты…

Сённяя беларуская культура яшчэ нагадвае ледзь прыгублены келіх з дарагім, каштоўным напоем. Але ёсць усе шанцы, каб гэты напой быў рассмакаваны. Пра тое сведчыць узмацненне беларускай дзяржаўнасці, павышэнне цікавасці да турызму па краіне, паступовае аднаўленне помнікаў архітэктуры, выхад у свет грунтоўных даследаванняў, шыкоўных фотаальбомаў, россып новых імёнаў у літаратуры.

### Кожная дарога куды-небудзь вядзе…

Хацелася б па меры сваіх сціплых магчымасцей дапамагчы неабыякавым чытачам адкрыць для сябе тое, што калісьці было адкрыццём для мяне.

Канцэпцыя калекцыі афарызмаў наступная: цытаты з твораў знакавых, на маю думку, для Беларусі аўтараў, чые імёны ўжо сталі гісторыяй і выпрабаваны часам, аўтараў самага шырокага спектра — ад пісьменнікаў і мастакоў да дзяржаўных дзеячаў, навукоўцаў, выбітных прафесіяналаў сваёй справы. Пачаў укладаць кнігу афарызмаў з 2002 года.

За гэты час сабраў прыкладна паўтары тысячы афарызмаў ста трыццаці асоб гісторыі, літаратуры, культуры Беларусі. Рабочая назва зборніка — "У прытчах затоена мудрасць: калекцыя афарызмаў". Дарэчы, першая частка назвы — словы Францішка Скарыны.

Самыя раннія афарызмы належаць Кірылу Тураўскаму, а таксама Еўфрасінні Полацкай.

У мяне шмат улюбёных афарызмаў. Напрыклад, вельмі падабаецца выслоўе Кузьмы Чорнага, датаванае 1943 годам: "Кожная дарога куды-небудзь вядзе, але ты выбірай тую, якая не вядзе ў прорву".

Каліва з напрацаванага прапаную чытачам — для спробы на смак, для роздуму.

***Ад рэдакцыі.* На працягу 2011 года штонумар вы зможаце знайсці афарызм Уладзіміра Караткевіча з калекцыі Зміцера Цехановіча ў традыцыйным "акенцы" на шаснаццатай старонцы.**

## Афарызм

*Любіце гэтую сваю святую зямлю аддана і да канца.*
*Іншай вам не дадзена, дый непатрэбна.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

## З глыбінкі

# Успаміналі мінулае

Некалькі гадзін ва ўтульнай зале Мядзельскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Танка гучалі ўспаміны пра пасляваеннае жыццё.

Дзяліліся імі гараджанкі-пенсіянеркі з клуба "Сардэчная размова" разам з жанчынамі з некалькіх вёсак Нарачанскага краю. А распытвалі іх пра тагачасны побыт удзельнікі праекта міжнароднага супрацоўніцтва Беларусь — Германія "Захоўваючы гісторыю — ствараем будучыню".

Жанчыны ўзгадалі пра тое, як працавалі, вучыліся, лячыліся і адпачывалі, як адзначалі святы. Падзяліліся тым, якія танцы былі папулярныя ў іх мясцовасці, якія песні спявалі.

Што было самым радасным у тыя гады? У дзверы пагрукаў бацька, які вярнуўся з вайны. А нехта і дагэтуль памятае смак простых цукерак "падушачак" — здаецца, што ў жыцці нічога смачнейшага і дагэтуль не каштаваў.

Пра мэту сустрэчы каардынатар праекта на Мядзельшчыне Валерый Ільюковіч сказаў:

— У верасні чатыры настаўнікі раёна былі запрошаны на семінар "Гісторыя стагоддзя — у адукацыі дарослых". Яго арганізатарамі выступілі прадстаўніцтва нямецкай Асацыяцыі народных універсітэтаў у Беларусі і абласны інстытут развіцця адукацыі. Была пастаўлена задача: сабраць інфармацыю пра пасляваенныя гады, 1945 — 1953. Гэта сапраўды каштоўныя сведчанні. І іх варта захаваць для гісторыі.

**Алесь ВЫСОЦКІ,**
**Мядзел**

# Закаханая ў песню

Ці ведаеце вы пра Ірыну Марчанку? Хто яна? Бардаўская спявачка. Таленавітая, адмысловая, закаханая ў песню. І даволі вабная жанчына, якая жыве і працуе ў прыгожым горадзе Рагачове. Дарэчы, яна актыўна выступае ўсюды, куды запрашаюць. І спявае так, што заслухаешся! Пранікнёна і ўзнёсла. Ірына спявае не толькі свае аўтарскія песні, але і піша музыку на вершы іншых паэтаў і паспяхова іх выконвае. Ірыну ведаюць многія жыхары Гомельшчыны і заўсёды рады, калі сустракаюцца са спявачкай.

Вось і нядаўна, па запрашэнні актывістаў літаратурнага аб'яднання "Пралеска", якое шмат гадоў дзейнічае на базе цэнтральнай бібліятэкі Гомельскага раёна, Ірына Марчанка завітала ў Гомель і цікава выступіла ў Брылёўскай школе з музычным ухілам. Выконвала песні на беларускай мове, якія вельмі спадабаліся прысутным. Удзячныя гледачы цёпла віталі яе апладысментамі, шчыра выказвалі ўслых сваё захапленне. І не дзіўна. Бо толькі сваё роднае — заўсёды лагоднае!

А вось паэты адрэагавалі ў такі момант па-свойму: адразу падарылі Ірыне Марчанцы свае паэтычныя зборнікі. Не сакрэт, што кожнаму пажадалася, каб і на ягоныя творы звярнула ўвагу таленавітая спявачка дый напісала музыку… Будзем спадзявацца на новыя сустрэчы, на новыя песні.

**Галіна МІКАЛАЕВА,**
**Рагачоў**


Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"
Галоўны рэдактар Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
дадатак "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by





Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3128
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 5.01.2011 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 12
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686